З. Бядуля

# Вера паншчына і воля ў беларускіх народных песьнях і казках



*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

З. БЯДУЛЯ

# ВЕРА, ПАНШЧЫНА І ВОЛЯ
# Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ
# КАЗКАХ І ПЕСЬНЯХ

Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства
„Савецкая Беларусь"
МЕНСК, 1924

I.

## Барацьба здаровага народнага духу з рэлігійным уплывам.

Спакон вякоў прывыклі глядзець на вясковы люд, як на самы цёмны элемэнт чалавецтва, як на самую несьвядомую масу, у якой моцна ўглыбіліся карэньні дзікіх забабонаў і дурной набожнасьці; нібы селянін бачыць бога і сьвятых у такім выглядзе, як іх малюе духавенства; нібы на „прадстаўнікоў бога“ на зямлі—г. з. на папоў, ксяндзоў і г. д.—селянін чуць ня моліцца і бачыць у іх нейкі ідэал сьвятасьці, справядлівасьці і праўды.

Так прывыклі глядзець на ратая даўней, так шмат хто на яго і цяпер глядзіць. Гэтакім цёмным чалавекам стараліся зрабіць селяніна ў працягу вякоў паны і царскае духавенства, бо гэта было ў іх інтарэсах: рэлігія і іншыя пабочныя забабоны былі добрай агітацыяй дзеля таго, каб шчыра служыць пану і цару, таксама карміць гультайскую сям'ю духоўнікаў.

Селяніна трымалі ў чорным целе ня толькі фізычна, але й духоўна. З „сьвятога“ амбону яму духоўнік гаварыў навучаньні, якія кіраваліся прыблізна да такога зьместу:

Шчыра служы пану. Маліся яму, як богу. Шануй яго. Калі пан табе бізуном у плечы рэзьне—падстаў яму і твар пад бізун. Калі пан цябе ўдарыць рукой—цалуй гэтую панскую руку. Глядзі на пана, як на збаўцу, які дадзены табе, цёмнаму й дурному хаму, ад бога. Пухні з голаду, а не чапай з таго дабра, што сам сваім крывавым потам сеяў на вялізарных шнурох і малаціў на панскім гумне. Не чапай, бо гэта вялікі грэх, за які бог будзе караць. За такі праступак прападзеш навекі ў пекле, бо бог—абаронца паноў. А мы—папы й ксяндзы—божыя пасланьнікі на зямлі, каб пасьвіць вашыя душы.

Гэтак соткамі гадоў каталіцкае і праваслаўнае духавенства навучала беларускага селяніна, „асьведамляла“ яго.

Цяпер пабачым, як гэтая „боская асьвета“ асьвятляла нашага ратая, які мела ўплыў над „цёмнай“ душой, ці „хам“ і „хлоп“ папраўдзе верыў сваім „духоўным пастырам“.

Духавенства ў нашым краю было дубальтовае—праваслаўнае і каталіцкае. Каталіцкія езуіты і праваслаўныя папы вялі паміж сабою пастаянную барацьбу і, стараючыся кожны на свой бок перацягіваць „ду-

хоўных авечак", яны сыпалі перад сялянамі адны на адных горкім макам: езуіты ганілі перад народам праваслаўе, а папы—каталіцтва. І вось сяляне прыслухоўваліся да гэтай узаемнай лаянкі, якая вытварыла ў іх уразуменьні самы натуральны погляд, як на першых, так і на другіх: селянін чуў у душы фальш і праваслаўных і каталіцкіх духоўнікаў. Не памагла духавенству і вунія—злучэньне праваслаўя з каталіцызмам.

Агэнты цемры на Беларусі,—розных колераў, фірмаў і калібраў,—мелі ўплыў толькі над панамі, шляхтай, над гарадзкім абывательствам і чыноўніцтвам, або наадварот. Усе яны мелі ад рэлігіі зразумелую і відочную карысьць, бо фактычна „сьвятая тройца" была на іх старане—на старане паноў і чыноўнікаў, на карысьць якіх гэтая боская цёплая сямейка загадвала строга мужычку праз вусны духавенства і ўдзень і ўночы працаваць да апошніх сіл—іначай мужык будзе пасьля сьмерці смажыцца ў смале пякельніцы.

Словам, бог быў абаронцам багатых і забясьпечаных клясаў. Яны глядзелі на яго «па-стольку—па-скольку» і калі на Беларусі панавалі палякі, тады «сьветлая косьць» краю—паны, шляхта і чыноўнікі мелі грашовую выгаду быць каталікамі, а калі панавалі тут расійцы—рабіліся праваслаўнымі,

бо і польская і расійская ўлады давалі прывілеі «братом па веры». Такім чынам, „соль нашай зямлі“,— „сьвядомыя“ элемэнты краю пастаянна пераскаквалі равок—з праваслаўя на каталіцтва і з каталіцтва на праваслаўе.

Хто забясьпечваў іх дабрабыт—той бог быў мацнейшы.

Гэткі гандаль з богам адбываўся ў „інтэлігэнцыі“ на Беларусі з веку ў век. Уся гэтая хаўрузія,—духавенства і буржуазія,—цёпла гадавалася ўвесь час «у Хрыста за пазухай»—на мазалістым карку беларускага селяніна і гарадзкога рабочага.

З вышэй сказанага відаць, які «моцны ўплыў» мела рэлігія над „рыцарствам“ нашага краю, і, наадварот, які ўплыў мела пануючая кляса над рэлігіяй.

А селянін?

Селяніна ў гэтым кірунку ратавалі 1) яго няпісьменнасьць і тое, што 2) набажэнства і казаньні адбываліся не на беларускай мове, а на польскай(у касьцёлах) і на расійскай (у царквох).

Няпісьменнасьць беларуса служыла для яго архангэльскім мячом, які вісеў над хрысьціянскай брамай раю і не дапускаў селяніна да пана бога: селянін ня мог чытаць хоць і на роднай беларускай мове багаслоўных твораў, беларускіх апосталаў: Францыш-

ка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, і іншых перакладчыкаў „сьвятога“ пісьма на беларускай мове, якія мелі мэтай ахрысьціянізаваць „люд паспаліты“ ў 16 веку. Пушчаныя ў той час на беларускай мове кнігі духоўнага зьместу чыталіся хіба тымі беларускімі вяльможамі і князьмі, якія ўжывалі „Літоўскі Статут“ і пры княжацкім двары пабеларуску гаварылі.

Набажэнства на польскай або расійскай мовах, якое здбывалося і адбываецца ў царквох і касьцёлах Беларусі, да апошняга часу не давала магчымасьці беларускаму працоўнаму люду пранікнуцца забабонамі хрысьціянства. У гэтым кірунку *русыфікатары і полёнізатары нашага краю працавалі на нашу карысьць:* просты ратай нічога не разумеў з таго, што гаварылася і рабілася ў „божых палацах“ і вось, у сэнсе прайманьня нявольніцкімі ідэямі хрысьціянства, беларус лічыцца болей адсталым ад сваіх шчасьлівейшых“ братоў славян, якія пілі „боскі“ мёд з вуснаў пастыраў у сваіх родных мовах.

А калі хто з няграматных ратаяў па прымусу духоўніка вывучваў малітву напамяць, дык гэта быў набор пакалечаных слоў, якія аздабляліся народнай імпровізацыяй у стылю абрадавых гадавых «паганскіх» песьняў. У сваёй новай працы („Белоруссы“,

том III. „Старая западно-русская письменность“ 1921 г., стр. 236) беларускі вучоны Е. Ф. Карскі прыводзіць малітву беларускага селяніна 18 веку вось якога зьместу:

„Слава цябе господзи, сущую, часнѣйшую, избранны воявода, радуйся нявѣста, уся чины манашеския, святая трапѣза... и кала и двара, и скацинки и шарсцинки, алилуй нас да канца вѣка. Аминь. И шарпни, господзи, па души и па цѣлу, па жонки и па дзѣткам, святое сягодня, святое и завтрѣ».

„Приведенная молитва,—кажа профэсор Е. Ф. Карскі,—соответствуетъ не особенно давней дѣйствительности: еще въ XIX столѣтіи, даже въ концѣ его сдѣланы этнографами записи подобныхъ молитвъ“.

Пішучаму гэтыя радкі ня раз прыходзілася чуць ад беларускіх сялян у жывой гутарцы анэкдоты аб малітвах. Яны гаварылі розныя „Мёйцы сына“ і „Вотча наш“ вельмі сьмешна, перамешана густа няпрыстойным зьместам. І зусім зразумела, бо на гэта ўсё, не разумеючы слоў малітвы і ня веручы сваім духоўным настаўнікам, сяляне глядзелі не як на сваё, а як на нешта чужое, з чаго можна час ад часу пашуткаваць. Гэтая ўся білібэрда адкідывалася здаровым розумам працоўнага чалавека.

Селянін меў свайго адвечнага бога. Гэты бог называўся Працай. Жыўшы спакон

вякоў на ўлоньні прыроды сярод пушчаў, балотаў і лугоў у вечнай працы, яго здаровы прыродны інстынкт служыў яму сталёвай сьцяной процiў такога бога, які бароніць толькі гультаёў-багачоў, а няволіць мужыка. «Хам» меў свайго клясавага бога Працы, якога паводлуг пораў году, у часы адпачынку і сьяткаваў. Ва ўсіх сваіх урачыстасьцях і сьяточных рытуалах беларускі селянін шанаваў Працу, г. з. чалавечую здаровую і карысную творчасьць. Поэтычнае гадавое кола беларускіх народных сьяткаваньняў хрысьціянскае духавенства называла „паганскім". Гадавыя абраднасьці нашага ратая былі, праўда, прымітыўныя і простыя, але затое наскрось пранікнуты былі духам, ідэяй працы і матывамі штодзённых сялянскіх патрэб. Гэта было адвечным цэрэмоніялам, без якога ніякая сьветлая і высокая чалавечая ідэя абыходзіцца ня можа. Гадавыя сьвяткаваньні, урачыстасьці дзеля адпачынку, пад'ёму духу і ўзмацаваньня ідэяў у псыхіцы мас ужываюць і расійскія фэдэратыўныя Радавыя Рэспублікі. У нас ёсьць цяпер бадай поўны рэволюцыйны каляндар. Так што, гледзячы з гэтага пункту, мы ня можам строга судзіць беларускае сялянства за яго адвечныя „паганскія" гадавыя сьвяткаваньні. Калі ў іх і здараліся забабоны, як вера ў русалак, дамавікоў, лясуноў і інш.

дык гэта быў толькі ўзьверхні налёт, адгалосак рэлігіі і яе адваротная старана, але сутнасьць гэтай „паганшчыны“ фактычна была толькі Праца і апяваньне сялянскай штодзёншчыны, як напр. у песьнях калядных, вясновых, жніўных, талочынскіх і г. д., у якіх адмалёваны ўвесь сялянскі быт, усе яго жыцьцёвыя патрэбы.

Апрача гэтага, „паганскія“ сялянскія сьвяткаваньні былі тэй вогненай кузьняй, у якой справедку тварылася народная вусная літаратура, народны тэатр і іншыя мастацка-поэтычныя выяўленьні народнай творчасьці, якія замянялі няграматнаму гаротнаму селяніну кнігі, тэатры і г. д.

Гадавы культ прыроды служыў з веку ў век нашаму селяніну тым вогнішчам натуральнай і здаровай культуры, да якой ратай рваўся інстынктыўна. Вельмі памыляюцца тыя, хто лічыць нашыя народныя абраднасьці за адзнакі цемнаты.

Гэта добра разумелі яшчэ колькі сот гадоў таму назад прадстаўнікі хрысьціянскай цэрквы, якія вялі неміласэрную барацьбу проціў „паганшчыны“, „народных ігрышчаў“, „скамарохаў“ і іншых «сатанінскіх» учынкаў на вёсцы. Хрысьціянская цэркаў чула ў гэтым поэтычным народным кульце Працы вялікую небясьпеку для бога, паноў, цароў і іншых эксплёататтараў працоўнага люду,

якія панавалі па ўсіх краёх зямлі. Змаганьне было markdown розная—у цэркаў заганялі людзей нагайкамі, былі забаронены ўладай пад страхам кары народныя забавы, замест якіх старaліся карміць народ «духоўнай стравай» папоў і ксяндзоў, вабячы народ пышнасьцю «божых дамоў», убранай золатам і дарагімі каменьнямі «божай сямейкай», вялікаю плоймай „сьвятых абразоў“ і рознымі «сьвятымі мошчамі» і «цудамі», якія духавенства фабрыкавала направа і налева. Словам, замянілі піва на квас. Цэркаў і касьцёл мігаценіся ў золаце, срэбры, дыямэнтах, шоўку і ядвабах: папы і ксяндзы апраналіся пышна, тэатральна, але здольным артыстам не пашанцавала захапіць працоўны люд цалком у свае тлустыя і моцныя лапы. Надта моцна ратай адчуваў на сваіх балючых плячох увесь страшны цяжар „духоўнай“ кармежкі, якая каштавала селяніну шмат поту і крыві. Не здавальняючыся гэтым, духавенства ўздумала новую прывабу для «цёмнага» люду: пачалі з амбону з-пад шатаў „крыжа міласьці і дабра“ гаварыць казаньні процiў «нехрысьцяў», клікалі да пагрому на жыдоў, выдумляючы казкі аб тым, нібы жыды ўжываюць хрысьціянскую кроў. Ва ўсім гэтым хрыстусовым камэдыянтам шчыра дапамагалі нагайкамі і штыкамі царскія жандары. Рэдка калі працоўны люд паддаваўся на гэтую вудачку.

Урэшце, пасьля скасаваньня паншчыны, пачалі ўжываць новы спосаб закабаленьня народу, самы хітры і радыкальны спосаб —праз грамату. Паадчынялі, так званыя, царкоўна-прыходзкія школы па валасьцёх і некаторых вёсках і духоўныя і настаўніцкія сэмінарыі ў павятовых гарадох. У гэтых царска-царкоўных школах гадавалі з сялянскіх і з болей заможных клясаў дзяцей для бацюшкі цара шчырых слуг—янычараў. Там фабрыкаваліся чорнасоценныя настаўнікі, папы, дзякі, паліцэйскія, чыноўнікі і іншыя злыбеды—царска-божыя падлізьнікі для нашага краю. Шмат хто з «адукаваных» сыноў працоўнага люду, пасьля пічканьня іх у школах спэцыфічнымі ура-навукамі, пераходзілі ў лягэр буржуазіі і парабіліся самымі дзікімі ўгнятацелямі *сваіх-жа братоў*. Яны корчылі з сябе паноў, сароміліся сваіх родных бацькоў-„мужыкоў“, якіх к сабе на парог ня пускалі.

Ня гледзячы на ўсё гэта, гушча народная ішла сваім натуральным шляхам, і тыя здаровыя і праўдзівыя погляды яе на ўсё акружаючае, якія гартаваліся і выпукляліся з роду ў род, не зьмяняліся ні на крок: праца ўпрашчае лёгіку, аздараўляе розум, а блізкасьць да прыроды не дазваляе нават няграматнаму чалавеку верыць у тое, што процiў прыроды, процiў яе назначэньняў і мэ-

таў. Гэта значыць, што працоўны люд вёскі не падаўся цалком шматвекавой агітацыі духавенства і паноў. Ратай вышаў з тысячалетняга мора зьдзеку і цемры яшчэ ня зусім пакалечаным, і ён не такі цёмны, як шмат хто думае.

У доказ гэтаму можа служыць вялізарная «галубіная кніга» народнай творчасьці, у якой мы знаходзім праўдзівы адбітак народнай думкі, яго сьветапогляду, яго натуральнага разуменьня боства, цудаў, хрыстусовых камэдыянтаў, паноў і іншых гультаёў зямлі і неба.

Зірнем на тыя народныя казкі аб духавенстве, сьвятых, багох, аб чараўніках, шаптунох і аб панох, якія стварыліся не пад уплывам апошняга рэволюцыйнага часу, але перадаваліся беларускімі казаньнікамі з роду ў род; казак такога характару ёсьць у беларускай народнай творчасьці вельмі багаты цыкль, можна набраць матар'ялу на вялікі том, але тут мы дамо для прыкладу толькі некаторыя з іх, самыя характэрныя і кароткія.

II.

## Папы і ксяндзы.

Шмат з народных казак на тэмы аб духавенстве носяць вельмі няпрыстойны, порнографічны характар. Прыкладаў з гэтых казак мы зьмяшчаць тут ня будзем. Успамінаем аб іх толькі дзеля таго, каб паказаць, як наш селянін шануе сваіх „духоўных бацькоў", і як папы і ксяндзы атэставалі сябе ў нашым краю, бо казкі аб тым, як папы і ксяндзы робяць залёты да чужых жанок, ня што іншае, як праўдзівыя бытавыя рысы, на манер новэлак аб духавенстве італьлянскага пісьменьніка XIV веку, Джыованьні Боккачыо. Відаць, што духавенства ўсіх часоў і краёў мае адны і тыя самыя цягі да золата і блуду, і ўсюды народ гэта добра прыкмячае.

Наш селянін глядзіць на папа, як на нейкае дзікае страшыдла. Поп так намазоліў вочы селяніну, ажна папа і за чалавека ня лічыць, а за нейкага зьвера з клыкамі, які дзярэ на шматы і жывых і мёртвых. У селяніна заўсёды зьяўляецца пытаньне: хто паслаў на яго, селяніна, гэткую кару—папа?

Што гэта за істота? І селянін, які да свайго гора ў большасьці адносіцца з лёгкім гумарам, дае адразу адказ на гэтае запытаньне:

### Адкуль поп.

Бог хацеў з чалавека зрабіць льва. Вот ён зрабіў кашлатую галаву, з доўгімі валасамі, з вялікімі зубамі. Ды й спахваціўся, што ўсяго толькі дзьве нагі. Дзе-ж яшчэ ўзяць дзьве? Вось ён думаў-думаў ды й кажа: «Ну, ня будзеш-жа ты чалавекам, а будзеш папом!» («Бѣлорусск. сборникъ» вып. IV Раманава).

Тут, паміж іншым, ёсьць і просьценькая карыкатура на бога, які хацеў нешта пэўнае стварыць, але работа выйшла ў яго няўдалая, і бог ня мог сабе даць рады.

Поп сваёй бязьлітаснасьцю да чужога гора, бессардэчнасьцю, смагласьцю да грошай і кепскімі адносінамі да бедных так уеўся парахвіянам у косьці, што яны бачаць у ім грабежніка, але ня маюць сілы процiў яго змагацца і выліваюць на яго сваю злосьць вось у якой бытавой трагікамічнай байцы:

### Завідны поп.

У аднаго вельмі беднага чалавека памерла дзіця. Просіць бедны чалавек суседзяў зрабіць дамавіну й выкапаць магілу для

дзіцяці. Але ведама, калі чалавек багаты, то ўсе яму памагаюць, а бедняку—-ніхто.

Прасіў, прасіў бедны чалавек, але ніхто не пайшоў капаць яму. Горка яму, сьлёзы так і цякуць, бы з бярэзіны сок.

Няма чаго рабіць, трэба ісьці самому капаць яму для свайго дзіцяці. Кажуць, гэта вельмі вялікі грэх, але што зробіш, калі ад беднага і людзі адступіліся.

Узяў бедны чалавек заступ і пайшоў, але перш зайшоў к папу і просіць, каб пахаваў дзіця.

— Добра,—кажа поп,—толькі ты перш мне прынясі дзесяць злотых і паўвасьміну аўса.

— Няма, бацюшка,—кажа бедны чалавек,—у мяне ні аўса, ні грошай.—І давай прасіць, каб поп пахаваў дзіця так, а што ён ужо потым адробіць. Куды там! Поп ня хоча і слухаць.

Як ні прасіў бедны, поп стаіць на сваім — ды й толькі. Заплакаў бедны з жалю й пайшоў капаць магілу. Вось капае ён ды капае й выкапаў гаршчок з грашыма: чырвонцы аж зьяюць...

Панёс гэта бедны чалавек гаршчок з грашыма да гасподы і схаваў яго пад печ, а адзін чырвонец прыносіць папу.

Зьдзівіўся поп, адкуль гэта ў беднага

золата, і давай выпытываць. Бедны ўсё і расказаў, як было.

Вось пахавалі ў беднага чалавека дзіця. Сама пападзя з папом потым зайшлі ў хату к беднаму на памінкі. Толькі позна разыйшліся ўсе.

Астаўся бедны чалавек адзін з жонкаю. Прышоў гэта пап дамоў і хочацца яму адабраць ад беднага грошы. Зарэзаў гэта ён казла, абвярнуўся ў казьліную скуру, прыладзіў і рогі ды й пашоў у самую глупась (глуш) к беднаму пад вакно. Прышоў, высунуў у вакно галавішчу з рагамі і кажа немым голосам:

— Аддай мае грошы!

Спалохаўся бедны чалавек і адд ў гаршчок з грашыма. Ухапіў поп аберучкі гаршчок і пабег дамоў. Прыбег, хоча паставіць гаршчок на стол, ды нельга—рукі прырасьлі. Папробавала пападзя садраць з папа казьліную скуру. Куды там! І скура, і рогі прырасьлі.

Што ні рабіў завідны поп—нічога ня ўрадзіць. Прышлося прасіць беднага чалавека, каб ён забраў свае грошы. Сабраліся людзі, дзівяцца на папа, а ён толькі казьліною барадою трасе.

Вось прышоў бедны чалавек і як узяў свае грошы, дык і скура з папа звалілася, ды ня толькі казьліная, але й свая.

Вось які быў завідны поп! («Сказки и разсказы белоруссов полешуков», Сержпутоўскага).

Тут казаньнік ня верыць у праўдзівасьці споўненай кары над папом. Ён бачыў у супраўдным жыцьці толькі першую палову казкі, дзе поп ня хоча бяз грошай хаваць нябожчыка, ня гледзячы на тое, што ў беднага чалавека ні капейкі няма. Гісторыю з цудам ужо казаньнік сам прыдумаў. Народу хацелася б, каб поп быў пакараны, але поп у царскія часы быў недаступнай асобай для кары, як сам яго патрон, бог, і дзеля гэтага павінен быў зьявіцца надзвычайны цуд, які хоць у выяўленьні народнай фантазыі-выдумкі ўчыніў так, што ненавісны поп быў пакараны.

Цяпер ужо і селянін добра разумее, што пры хаўтурах можна абыйсьціся без папа, нябожчыку ўсё роўна, ці будзе пры гэтым поп, ці не; але ў старыя часы папоўская цэрэмоніяльнась ь, сьпевы пры хаваньні, удзел суседзяў у гэтай жалобнай урачыстасьці аблягчалі гора чалавека. Цэрэмоніяльнасьць ня так зьвязана з рэлігійнымі забабонамі, як проста са спачуваньнем людзей да гора свайго бліжняга. У памянёнай казцы ня толькі поп, але і суседзі адмовіліся прыйсьці да беднага чалавека, які ня меў чым іх пачаставаць.

## „Сьвятасьць“ папа.

Ад вечнага гультайства, ад добрага сытага жыцьця поп толькі тое і робіць, што заглядае на чужых маладзіц. Пры гэтым ён карыстаецца сваім „сьвятым“ становішчам божага прадстаўніка на зямлі, а «хто знаецца з папом, то й граху ня мае, бо поп сьвяты». Так поп угаварвае простых вяскоўых баб. Мужчыны, праўда, ня вераць у яго сьвятасьць, але баяцца „папярабіваць папу ногі“, бо станавы за гэта пакарае „недаверкаў“ турмой. Гэта відаць з байкі «Новы чорт».



### Новы чорт.

Быў сабе адзін поп, ды вельмі хцівы да маладзіц. Ведама, з гульні толькі, а бабах і думае. Наесца, нап‘ецца, высьпіцца ў ахвоту, аж ад сала скура пукаецца. Пойдуць людзі на работу, а ён і цікуе, ці ня прыдзе якая маладзіца зачым кольвек да гасподы. Як пакмеціць, дык і прыстане, бы шаўцоўская смала.

Перш маладзіцы хавалися ад паганага папа, а потым, як пачаў ён навучаць, што поп сьвяты, бо ён пасьвечаны, дык маладзіцы і думаюць—мо‘ і праўда, што хто знаецца з папом, то й граху ня мае, бо поп сьвяты.

Ужо хацелі мужчыны абрэзаць яму

кудлы, ды паперабіваць ногі, але поп напужаў іх, што ня дасьць прычасьця ды пажаліцца станавому, каб яны, як недаверкі, пагнілі ў вастрозе.

Баяцца мужыкі, маўчаць...

Поп унадзіўся да аднэй маладзіцы. Раз, як паехаў мужык, поп прышоў да маладзіцы. Вярнуўся мужык раптам. Поп голы схаваўся ў кадушцы з пер'ем. Мужык завёз кадушку на кірмаш і паказываў за грошы чорта-папа, штурхаючы яго кіем. («Сказки и разсказы бѣлоруссовъ—полѣшуковъ» Сержпутоўскага).

Сюжэт ня выдуманы баечнікам з галавы, бо гэта ёсьць бытавы абразок, які духавенства увекавечыла па сваіх парахвіях у жыцьцёвай праўдзе.

З прычын такіх мілых учынкаў «божых пасланцаў» на зямлі, злосьць і ненавісьць народу да папоў вырасталі да вялікшых разьмераў, і фігура папа ў вачох любога селяніна пастаянна малявалася ў пэўнай выкрасьленай форме злачынца і паганьніка. Ва ўсіх казках, сабраных Сержпутоўскім на беларускім Палесьсі, аб папох адзываюцца вельмі кепска, як напр.: «Быў адзін поп, ды такі паганы, што як яго і зямля насіла. Проста драў з людзей скуру». «Ужо зьбіраліся дзяцюкі абстрыгці яму касу і паперабіваць ногі» і г. д.

## „Сьвятасьць“ ксяндза.

Так як на папоў, беларускі люд глядзіць і на ксяндзоў. Розьніца ў тым, што ў ксяндзоў селянін у болей яркіх хварбах вызначае гультайства. І зусім правільна, бо, нямаючы сям'і, ксёндз можа без усялякіх перашкод аддавацца абібоцтву, таўсьцець да немагчымасьці, абрастаць лоем да таго, каб і дыхнуць было цяжка, проста даходзіць да т. з. «панскай хваробы». Гэта ярка малюе нам вось якая казка.

### Аб тым, як ксяндзы вылечыліся.

Тры гладкія, атылыя ксяндзы сабраліся ехаць на воды лячыцца. Яны растаўсьцелі, як адкормленыя вяпрукі. Чаго яны не рабілі, якіх зельпяў ня прымалі—нічога не памагае.

Дахтары кажуць, што трэба ехаць на воды, дык там лою збудзе.

Паехалі ксяндзы па панох зьбіраць грошы на дарогу. От прыяжджаюць яны к аднаму пану і жаляцца яму на сваю бяду.

Просіць пан ксяндзоў пасілкавацца ды пераначаваць.

Заначавалі ксяндзы.

От пасадзіў пан іх вячэраць ды так участаваў, што ксяндзы і заснулі пры стале.

Храпуць ксяндзы на ўсе застаўкі, сьпяць

так моцна, што хоць з гармат страляй — не пачуюць.

От пан вялеў іх разьдзець, перанясьці ў бровар ды і палажыць там разам з бравaрскімі работнікамі.

Прачухаліся назаўтра трохі ксяндзы, але ня ведаюць, дзе яны. Але вось і будзяць дзяцюкоў набіваць картаплянік.

Падняліся ксяндзы і не хацелі йсьці на работу, але як перацёг іх намесьнік бізуном, нябось, пашлі.

Робяць ксяндзы разам з другімі ўсё, што трэба ў бровары, разам ядуць, разам сьпяць і ніяк ня могуць з бровара вырвацца.

От праходзіць нядзеля — другая, і пачало з ксяндзоў спадаць сала, а цераз нядзель пяць яны падгіндзіліся, як харты. Паглядзяць яны адзін на другога й пазнаць ня могуць, так выпетралі за гэтыя пяць нядзель.

Думалі ўжо ксяндзы, што гэта іх чэрці ўхапілі ды й засадзілі ў бровар на пакуту; думалі, што ўжо ім ніколі адтуль ня выбавіцца.

От раз вялеў пан даць браварскім работнікам вядро гарэлкі, а ксяндзом — лепшае гарэлкі, самую моцную.

Напіліся яны і бяз памяці пасcоўваліся ў бровары каля катла. От як ксяндзы моцна заснулі, пан вялеў перанесьці іх у афіцыну й палажыць там, дзе яны ляжалі першую ноч.

Прахапіліся назаўтрае ксяндзы й трасуцца, спалохаліся, што позна спалі: баяцца, каб намесьнік не лупцаваў іх бізуном; сталі скарэй апранацца, але бачаць, аж каля іх ляжыць ксяндзоўская адзежа. Дзівяцца ксяндзы і вачом ня вераць. Адзеліся яны, але вось прыходзіць пан, заве гарбату піць.

Стаў гэта пан частаваць ксяндзоў ды й пытае, куды яны думаюць ехаць на воды.

— Не,—кажуць ксяндзы ў вадзін голас,—цяпер ня трэба ехаць на воды, бо мы ўжо вылечыліся.

От як пан вылечыў ксяндзоў. («Сказки и разсказы бѣлоруссовъ полѣшуковъ» Сержпутоўскага.)

Гэты, досыць зграбны сюжэт выкарыстаны на розныя лады ва ўсіх эўрапэйскіх літаратурах. Толькі, разумеецца, бяз удзелу духоўнікаў і бяз ідэі въздараўленьня працай, бо такая ідэя можа толькі жыць у сэрцы працоўнага чалавека, у мазгох мазолістага пролетарыя, а не ў эўрапэйскіх буржуазных пісьменьнікаў. Зьяўляецца пытаньне, чаму мужык баечнік узяў за доктара для ксяндзоў не мужыка, а зноў-жа гультая-пана, якога самаго трэба лячыць ад хваробы гультайства?

Справа ў тым, што беларускі казаньнік, які пры лепшых варунках быў бы слаўным поэтам-пісьменьнікам, мае ў сябе ад прыроды густ і мастацкі талент,—чарпае свае

матар'ялы ня ў выдуманай фантазыі, а з праўдзівых магчымасьцяў жыцьця. Толькі ў панскай абстаноўцы маглі-б апынуцца ксяндзы, толькі пан мог учыніць над імі такі жарт, а ня мужык. І вось баечнік уставіў сюды пана не як ідэал, а проста дзеля таго, што йначай нельга было-б.

З дальнейшай казкі «Мужык, пан і ксёндз» відаць, што селянін ня надта паважае панскі розум, а наадварот, пры патрэбе дапамагае пану, калі «пан ня можа агарнуць сваёю панскаю галавою».

### Мужык, пан і ксёндз.

За штось пан вельмі пакрыўдзіўся на ксяндза. От і захацелася яму накпіць над ксяндзом. Але так накпіць, каб ксёндз не дагадаўся, хто гэта зрабіў. Думаў, думаў пан, —нічога ня прыдумае.

Сядзіць пан сярдзіты ды толькі вусы кусае.

Тымчасам прыходзіць к яму мужык. Бачыць мужык, што пан вельмі моцна штось думае, ды ня можа агарнуць сваёю панскаю галавою, і захацелася яму памагчы пану сваім дурным мужыцкім розумам.

— Памагай бог, паночку!—кажа мужык і цялюх пану ў ногі.

— Табе што?—пытае пан.

— Паночку дарагенькі!—кажа мужык:

—пан штось думаеш вельмі моцна; скажы мне, мо я памагу сваім дурным мужыцкім розумам.—і плюсь пана ў руку.

— Што-ж ты,—кажа пан,—паможаш: мне трэба накпіць над тым галганам ксяндзом.

— Добра, паночку. Заўтра пан пабачыць, як я накплю над ксяндзом.

— Ну, глядзі, калі добра зробіш, то заплачу, а калі не, то зьясі бізуноў.

— Слухаю,—кажа мужык і пашоў на раку. Налавіў гэта мужык ракаў, папрыклейваў ім сьвечкі, папускаў ракаў у садзе перад ксяндзоўскімі вокнамі ды й пазапальваў сьвечачкі. Поўзаюць ракі. Вечар ціхі, як у вусе. Гараць сьвечачкі ў траве, бы зоркі.

Падыйшоў мужык пад вакно ды й кліча ксяндза.

— Хто там?—пытае ксёндз.

— Анёл з неба.

— А чаго ён прышоў?...

— Па ксяндзоўскую душу. Велена яе аднесьці ў неба.

Рад ксёндз. Адчыніў ён вакно, зірнуў, аж у траве гараць сьвечкі, бы зоркі. Паверыў ксёндз ды й высунуўся ў вакно.

Мужык наставіў мех, ксёндз—шусь у мех. Ускінуў мужык мех на плечы і папёр у сьвінушнік, кінуў там мех з ксяндзом і запёр дзьверы.

Назаўтра ўжо сонейка высока, мужык пашоў к пану і просіць, каб пан прадаў яму парсюка. От пан і пашоў з мужыком к сьвінушніку паглядзець парсюка. Падходзяць яны туды. Скрыгічуць сьв ньні ў сьвінушніку, аж дзьверы грызуць.

От адчынілі дзьверы; выбеглі сьвіньні— і зірнуў пан з мужыком у сьвінушнік, аж там сядзіць у вугле ксёндз, у аднэй сарочцы, чуць жыў ад страху.

— Чаго гэта,—пытаецца пан,—сюды забраўся, ксёндз дабродзей?

Маўчыць ксёндз, зубы сьцяўшы, так яму сорам.

Пасьмяяўся пан і даў мужыку многа грошы. («Сказки и разсказы бѣлоруссовъ—полѣшуковъ» Сержпутоўскага).

У вышэйшай казцы, паміж іншым, цікавы дзьве рэчы: 1) дурная вера ў цуды некаторых ксяндзоў і 2) адносіны ніграматнага простага чалавека як да гэтых ксяндзоў, так і да іх цудаў.

Нельга сказаць, каб усе духоўнікі наогул былі толькі фокусьнікамі, якія ня вераць у тое, што прапагандуюць люду з амбону. Ёсьць, галоўным чынам сярод каталіцкіх духоўнікаў такія асобы, якія да абалваненьня, да ідалства вераць у рэлігійныя байкі хрысьціянізму, хаця такіх духоўнікаў вельмі мала. Але іхнюю шчырую веру ў гэтыя забабоны

наш народ так сама не шанаваў. Над такімі асобамі ўчыняліся кпінкі і жарты, праз якія просты селянін паказваў у сваіх байках на начлезе, ці на вечарынцы грамадзе сялян нешта падобнае да вядомай камэдыі Л. Таўстога «Плоды просвещения».

III.

## Жыдоўскія духоўнікі.

У нашым краі ўжо некалькі сот гадоў жывуць жыды. Жывучы ня толькі па гарадох і мястэчках, але і ў самых глухіх беларускіх вёсках, яны давалі магчымасьць беларускаму селяніну прыглядацца ня толькі да іх звычайнага быту,—дазорчы селянін прыкмячаў нават рысы талмудычнай казуістыкі жыдоўскіх духоўнікаў, якіх высьмейваў, як ксяндзоў і папоў, вельмі метка і дасьціпна. «Кошэр» і «трэф» і іншыя штодзённыя фокусы жыдоўскай рэлігіі давалі беларускім баечнікам шмат матар'ялу ў гэтым кірунку. Адносіны да жыдоўскіх рабінаў былі ў беларускага селяніна ня горшыя і ня лепшыя чымся да папоў і ксяндзоў. Вось, напр., у казцы са зборніка Сержпутоўскага «Сказки и разсказы бѣлоруссовъ-полѣшуковъ» пад назваю «Вельмі навучны» высьмейваецца жыдоўскі духоўнік, у якога вум за розум заходзіць. Байка надта орыгінальная, але дзеля грубасьці сюжэту мы яе тут не зьмяшчаем. Баечнік канчае так: «Ён (рабін)

такі пісьменны, такі навучны, такі разумны, што за розумам і сьвету ня бачыць».

Сярод жыдоўскіх мас рабіны сыгралі тую самую ролю сейбітаў цемры, як хрысьціянскае духавенства сярод хрысьціян, г. з. прапангандзіравалі пакланеньне залатому цельцу—паважэньне багатых. Апрача гэтага жыдоўская рэлігія служыла адвечнай жалезнай сьцяною, якая моцна аддзяляла жыдоў ад усіх іншых народаў і давала повад антысэмітам сыпаць на гэты народ розныя дзікія нябыліцы. Разумеецца, галоўнай прычынай ненавісьці служыла экономічная падкладка, аднак гэтая адрозьненая рэлігія сыйграла тут сваю ганебную ролю.

Аслабіць законы жыдоўскай рэлігіі, зрабіць так, каб жыд глядзеў на акружаючае не праз акуляры дзікіх фанатыкаў-рабінаў —і ён зробіцца роўным паміж *усімі народамі* на зямлі. Адзіная дарога да гэтага—комунізм.

А што тычыцца беларускага сялянства ў адносінах да жыдоў, дык заўсёды гэтыя адносіны былі самымі шчырымі і лояльнымі. Беларускі „шабас—гой“ (селянін, які ў суботу працаваў у жыдоўскай хаце) добра прыглядаўся да быту «нехрысьцяў» і нічога там асобна нечалавечага ня бачыў, апрача таго, што ў іх «вум за розум заходзіць» у справах веры, так што ён—беларус у сваіх

байках малюе гэтую рэлігію ў грубых, але ў дабрадушна-гумарыстычных фарбах, а рабінаў далучае да сваіх папоў і ксяндзоў— аднаго поля ягадкі.

---

IV.

# Цуды.

Цуды наогул фабрыкаваліся ўсімі рэлігіямі сьвету, як стара эгіпецкімі жрацамі, Маісеем, біблійнымі прарокамі, Езусам і. г. д. Пачатак гэтых цудаў цягнецца яшчэ ад тых сівых часоў далёкай мінуўшчыны, калі першабытныя дзікія людзі не разумелі звычайных зьявішчаў акружаючай прыроды. Тады дрэвы, вецер, пярун, каменьні і г. д. здаваліся ім жывымі істотамі, і на ўсе звычайныя рэчы глядзелі, як на нязвычайныя. Для першабытных людзей, якія іншых забаўкаў ня мелі, фокусы жрацоў замянялі ім усе асалоды жыцьця. Потым прадстаўнікі рэлігіяў мелі гэтыя цуды-фокусы за добры грашовы прыбытак. У адным месцы быў камень, які нібы-то лячыў ад розных хвароб, у другім месцы—крыніца, у трэцім—«сьвятое» дрэва і г. д.

Ад самага пачатку свайго існаваньня і праваслаўнае і каталіцкае духавенства, дзеля таго каб зацямняць народны розум, выдумляла розныя цуды і фабрыкавала разнаітыя фокус-покусы. Гандлявала рознымі „сьвя-

тымі мошчамі", „сьвятымі абразамі маткі боскай" і іншымі «цудадзейнымі» цацкамі-забаўкамі. Гэткім чынам, духавенства абірала дабро ў даверчывых простых людзей і запаўняла свае папоўскія і ксяндзоўскія вялізарныя кішэні.

Савецкая ўлада за апошнія гады выкрыла шмат такіх „цудаў", дзе «сьвятыя мошчы» былі фабрыкаваны з ануч і ваты.

На Беларусі духавенства мела таксама шмат „сьвятых" каменьня, крыніц і «цудадзейных» абразоў, да якіх у пэўны дзень году прыходзілі людзі лячыцца ад розных хваробаў. У гэты «сьвяточны» дзень у тых мясцох духавенства ладзіла набажэнства. У „сьвятую" каплічку частка даверчывых сялян прыносіла ахвяры: сала, палатна, лёну, грошы, збожжа і інш., якія нібы-то „сьвяты дух" забіраў. Пры гэтым адбываліся гандлі. Духавенства і гандляры былі вельмі рады і здаволены: „цуды" шчодра кармілі іх за бальшчот неразьвітых простых людзей. Але большая частка сялян ня верыла ў гэтыя дурацкія забабоны. Гэта відаць з цэлага цыклю казак, вядомых на Беларусі, аб гэтых фокусах. Адно з такіх апавяданьняў дадзема тут:

### Прошча.

У глухім Палесьсі за балотам, за такою тхланьню, што адтуль і сьвету божага ня відна,

было сяльцо. У тым сяльцы была цэрква, старэнькая, скрывіўшаяся. Недалёка ад цэрквы стаяла карчма, старая, аблупленая, без страхі, з загатаю й падпоркамі. Бедны быў там поп, бедны й рандар: бо калі няма даходу папу, то няма й рандару. Але рандар быў вельмі хітры жыд. Тры дні ён сядзеў ня піўшы, ня еўшы, усё думаў, як-бы яму разбагацець. На трэці дзень Абрам сказаў „рэхт" і пашоў к папу. Позна ён сядзеў у папа, немаль да трэціх пеўняў, усё штось гаварыў папу. От прышлёпаў Абрам да гасподы, а на другі дзень паехаў у мястэчка.

От прайшла нядзеля, а мо' дзьве. Пачалі касіць. Было пагоднае лета. От вечарком у нядзелю сядзяць людзі то на прызьбах, то пад ліпамі каля цэрквы, сядзяць, жупяць, люлькі кураць. Тут-жа каля самага сяла пры рацэ гуляюць дзеці. Вечар пагодны, цёплы. От пачало цямнець; на небе загарэліся зоркі. Ось бягуць дзеці і крычаць:

— Сюды, сюды, вунь на рацэ плывуць зоркі!

Падняліся мужыкі, бачаць, аж праўда— на рацэ штось плыве з вадою і кругом яго як-бы сьвечачкі гараць.

Пабеглі сказаць аб тым папу.

Прышоў поп, паглядзеў і кажа, што гэта цуд. Палез стараста на званіцу і давай

званіць, як на вялікдзень. Вышла ўсё сяло к рацэ.

Пабег поп у цэркаў, адзеўся ў рызы ды пайшоў з пратэсамі к рацэ сустракаць той цуд. Падыйшлі людзі бліжэй к рацэ, бачаць, ажно плыве старая дошка, а на ёй ляжыць абразок паміж сьвечачак. Ціха, як у вусе, сьвечачкі гараць роўна, бы ў цэркве.

Падплыла дошка к берагу і заблуталася паміж ракітак ды і стала. Узяў гэта поп абразок на бераг, паставіў на камені і давай служыць малебен.

Усюды гаварылі, што ў тым сяле аб'явіўся цуд, і павалілі адусюль людзі к тэй прошчы. Нясуць ахвяру, хто што можа.

Разжыўся скора поп, але яшчэ больш папа разжыўся рандар, бо, ведама, хто адкуль ні прыходзіць, то ўсё-ж дасьць рандару ўтаргаваць. І славіцца тая прошча на ўвесь сьвет.

Але кажуць, што гэты цуд зрабіў рандар, намовіўшыся з папом. З мястэчка крамар пазнаў, — бачце гэта, той абразок, што ў яго рандар купіў для папа. („Сказки и разсказы бѣлоруссовъ-полѣшуковъ“ Сержпутоўскага).

Гэтая казка-апавяданьне, як многія іншыя такога роду баек, ня выдумана баечнікам з галавы, а ўзята з праўдзівага жыцьця.

Тут баечнік мімаволі падмеціў яшчэ

адну характэрную жыцьцёвую рыску: злучэньне папа з рандаром - жыдам дзеля грашовай нажывы. Значыць, селянін бачыць на кожным кроку, што дзеля ачмурэньня і эксплёатацыі працоўнага люду прадстаўнікі розных нацыяў і рэлігіяў злучаюцца ў адну хэўру, творачы свой залаты «інтэрнацыянал». Бог золата ў набожных мацнейшы за «бога неба і зямлі». Грошы злучаюць тое, што «бог» разлучае. У гэтым кірунку выхаванцы розных рэлігіяў адкідываюць свае традыцыі, ідэолёгіі і гонар. Возьмем у гэтым кірунку адзін жывы прыклад з сучаснасьці: папулярны «бацька» Балаховіч, які па горла купаўся ў крыві жыдоўскай местачковай беднаты, цяпер увайшоў у сардэчны хаўрус з багатымі жыдоўскімі купцамі і разам яны высякаюць Белавескую пушчу. Золата адкідае гонар і сумленьне.

## V.

# Сьвятыя.

У большасьці беларускі народ кпіць з „сьвятых“, ня верыць у іх, выдумляе аб іх сьмешныя байкі, дзе „сьвятыя“ малююцца сварлівымі, зайздроснымі, глухімі і бяззубымі старычкамі. «Сьвятыя» сварацца між сабою за гонар і ўчыняюць адзін над адным, або над людзьмі, злыя жарты, за якія нават кару атрымліваюць. Часам яны крадуць дабро ў людзей, часам яны гарэлачку п'юць.

Казак аб сьвятых ёсьць шмат, ёсьць і вельмі няпрыстойныя, якіх да друку нельга даць. У гэтых байках фігуруюць Ільля і Пятро, Павал, Мікола, Юры і іншыя, пералічаныя ў аднэй з вялікодных беларускіх народных песьняў. Вось даём казку аб тым, як Ільля і Пятро за гонар сварыліся і як адзін з іх быў пакараны.

## Ільля і Пятро.

Задумалі раз Ільля і Пятро пахадзіць па зямлі, папытаць людзей, каго яны больш любяць,—Пятра ці Ільлю. Бачаць яны, аж чалавек сее грэчку.

— Скажы, добры чалавеча,—кажа Пятро,—каго вы больш любіце: Пятра ці Ільлю?

— Мужык зьняў з плеч сявок, паставіў яго на зямлю, пачухаў патыліцу ды й кажа:

— А багі яго знаюць, каго мы больш любім: мо' Ільлю, мо' Паўла-Пятра?

— Ты не гарадзі плоту, а кажы проста,—выпаліў Пятро.

— І Ільля і Павал-Пятро добрыя сьняткі: мы іх і любім.

— А каго больш?

— Бачыць мужык, што тут ня выкруцішся й кажа:

— Пэўне-ж Паўла-Пятра.

Аж затросься Ільля ад злосьці.

Пашлі яны далей.

— Ото-ж сьпяку я за гэта яму ніву— нічога не зародзіць,—кажа Ільля.

— А я памачу й зараджу,—кажа Пятро.

— Калі так, дык я зраблю вось як: хто ўкусіць з гэтае нівы перапеч, дык падавіцца.

Ухмыліўся Пятро, і пашлі яны далей.

Праз колькі часу намалаціў мужык грэчкі, намалоў, і напякла баба сьвежых перапеч поўну печ. На той час прыходзяць у тое сяло Ільля з Пятром і заначавалі ў таго мужыка. Забыўся Ільля, не пазнаў таго мужыка. От селі яны вячэраць.

— Пробуйце, госьцікі, сьвежых пеапечр! —кажа мужык.

А Ільля такі добра прагаладаўся.

От ён як хапіў перапеч, дык і падавіўся. Туды-сюды ён, і вадою запіваць, і кулаком біць у грудзі і ў сьпіну—от хоць-бы што.

Дагадаўся ён, што гэта праклятыя ім перапечкі, і давай ён перапрашаць мужыка й Пятра, дык насілу ачухаўся.

От з тае пары годзе Ільля мяшаць людзям сена касіць.

Але ўсё было-бы добра, каб Пятро ня быў такі стары ды глухі. Бог кажа: «Пасылай тады дождж, як людзі просяць», а ён не дачуе ды й пасылае дождж, як людзі косяць. («Сказки и разск. бѣлорус.-полѣш.» Сержпутоўскага).

Тут адразу відаць, што такіх сьвятых дурачкоў, якія не даюць добрым людзям на полі працаваць, вясковыя бабы качаргамі рады выганяць, але глядзяць на іх проста, як на забавы, дзівуюцца на гэтых дзівадлаў і болей нічога. Ходзяць «сьвятыя» старычкі па зямлі і глупствам займаюцца. Гэта можна бачыць з кожнай нашай народнай байкі аб іх.

Часам валэндаюцца гэтыя «сьвятыя» па беларускіх гасьцінцах з сваімі «малодшымі багатырамі»—папамі, дзе займаюцца брыдкім зладзействам, бо што-ж ім болей здуру рабіць? Вось сюжэт аднэй з дзесяткаў такіх баек:

### Сьв. Мікола і поп.

Шоў раз сьв. Мікола, а насустрэч яму поп. Пайшлі яны разам.

Селі яны есьці, і поп украў яду ўМіколы.

Пайшлі яны далей і знайшлі грошы. Селі дзяліць. Мікола раскладвае грошы на тры груды. Поп пытаецца, для каго трэцяя груда. Мікола кажа, для таго, хто мой хлеб украў. «Гэта я ўкраў», — кажа поп. Мікола аддаў яму грошы. Поп усыпаў грошы ў мяшок, прыцягнуў у канаву, хацеў узьняць мех грошай, тымчасам мяшок яго задавіў. (Раманаў, «Бѣл. Сб.» вып. IV, стр. 61).

Ужо брыдчэй гэтага і быць ня можа: ні папу красьці, ні Міколе такімі хітрыкамі падстаўлаць ножку папу з гэтым злыбедным мяшком золата. Пэўна, што чалавек, а не «сьвяты», так строга не пакараў-бы чалавека за крадзеж. Але што-ж—як і кашлаты поп, таксама і сьвяты Мікола ня людзі (аб тым, што «поп не чалавек» гаворыцца ў ранейшай байцы «Адкуль поп»), а нялюдзі могуць рабіць нялюдзкія ўчынкі. А калі выйшла ў байцы так, што поп задавіўся, дык знача, што баечнік і яго вясковыя слухачы гэтага шчыра жадалі. Баечнік пакараў-бы і сьвятога, каб той выхітрыў не папа, а звычайнага селяніна (як ён і зрабіў з сьвятым Ільлёй у ранейшай байцы), але Мікола чапаў толькі папа, а за гэта яму, Міколе, толькі дзякуй.

VI.

## Неба і пекла.

Папы і ксяндзы ў вельмі яскравых хварбах малявалі з «сьвятых амбонаў» перад працоўным людам падробную архітэктуру неба і пекла з усімі іхнімі падрабязговымі абстаноўкамі, вось як-бы толькі яны самі стуль прышлі. Пужалі непаслухмяных духоўных авечак сваіх за грахі—за непашану бога, цара і пана, страшным судом, які маляваўся ня толькі ў гарачых словах духоўніка, але на сьценах «божых дамоў» чуць не з натуры праўдзівымі страшнымі малявідламі. Але, як гарох аб сьцену, ударaліся гэтыя казаньні аб розум селяніна. Вока яго таксама ня пужалася размалёваных сьцен. Гэта ўсё служыла беларускаму баечніку лішнім матар'ялам для сьмешных казак. Шмат цікавых казак злажыў наш народ аб тым, што робіцца на тым сьвеце, як мужык-парабак запрагае свайго пана, сьцёбае яго пугай і возіць на ім смалу Люцыпару ў пекла і г. д. Болей усяго ў вандроўку на той сьвет наш беларус выпраўляе «адважнага

маскаля», бо сам ён, беларус, чалавек ціхі і спакойны, заняты працай у сваёй гасподзе ці на полі і ня мае часу швэндацца. Вось сюжэт аднэй з такіх баек (зборнік Сержпутоўскага), дзе апавядаецца аб тым, як маскаль пашоў у чужы край і там заблудзіўся. Дабраўся ён да тога месца, дзе канчаецца зямля. Прылёг адпачыць. Тымчасам зышлі з неба два анёлы і панесьлі яго ў рай. Нудна яму ў раі зрабілася, бо ня мог ён там сядзець ціха, як «намалёваны сьвяты». Пашоў ён шукаць, дзе весялей, і ўпаў у пекла.

Ось падходзіць к яму якісь паніч.

— Ці няма чаркі гарэлкі? - пытае маскаль.

Паніч даў яму гарэлкі. Таксама даў маскалю тытуну і люльку. У пекле весела сьпявалі і скакалі.

І астаўся маскаль у пекле, дзе ўсё «пекне», ня хоча ў неба, бо там вельмі ўсё сьвятое, а «чалавек грэшны».

Тут адбіваецца натуральны сьветапогляд нашага селяніна, які ня любіць сядзець бяз дзела, бяз руху ў «райскай асалодзе», «як намалёваны сьвяты». Яму дай лепей пекла, бо ён ня болей ня меней, як «грэшны чалавек». Ён любіць працу, хоць у пекле смалу вазіць для паноў, а пасьля працы чарка гарэлкі і люлька з тытуном важней для яго, чымся малітвы гультаёў І чаму ў

вольную гадзінку, пры вясёлых сьпевах і музыцы, не паскакаць добраму чалавеку хоць і на небе, як на вечарынках у вёсцы? А працоўны чалавек любіць музыку ў часы адпачынку, любіць моцна...

Беларус у другой байцы выпраўляе старога дудара на неба. Дудар грае лявоніху перад богам і зачароўвае ўсіх жыхароў неба. Бог яго вельмі хваліць і прапануе вандроўцу-дудару вялікую пасаду—быць капэльмэйстрам пры нябесным божым двары. Пасада, праўда, пачэсная. Але беларускаму дудару мілей за неба родная зямелька: лепей між бедных ратаяў у родным, мілым краі жабраваць і цягацца ад вёскі да вёскі ў сьпякоту ці непагоду, чымся на небе быць пачэсным асэсарам... Лепей пацяшаць сваёй песьняй гаротных «грэшных» людзей, чымся забаўляць на небе божых сьвятых гультаёў.

Як увесь беларускі народ, таксама і яго старац-дудар ня любіць папоўскага неба— ня вельмі яму прыемна граць перад папоўскім богам у залатых нябесных харомах...

«Пусьці, божанька, на зямельку беларускую»...—просіць у бога літасьці дудар. Але бог, бязьлітасны бог багачоў і гультаёў, які ўсё лепшае хоча заграбаць толькі сабе і сваім сьвятым, ня пускае дудара да бедных людзей на зямлю. А калі дудар сам ціхачом уцякае на зямлю, дык бог яго строга

карае. І дудар, паводлуг апавяданьня баечніка, застаецца на вечныя годы вісець у пакуце паміж небам і зямлёй.

О, бязьлітасны, страшны, зьверападобны бог! За вошта такая кара беларускаму дудару?..

Ці ў цябе ніякага спачуваньня няма да бедных людзей?... Затое беларус-працаўнік ня любіць ні цябе, ні твайго неба, якое завалена сьвятымі балванамі-ідаламі.

Аднак дудар выйграў: лепей вісець паміж небам і зямлёй, але над сваёй бацькаўшчынай, чымся ў бога за сьвятой пазухай.

VII.

## Б о г.

Якая матка—такое й дзіцятка. Якія паняняты—такі і пан. Якія бажаняты—такі і бог. Беларускі баечнік зграбна і натуральна малюе ў сваіх казках духавенства і сьвятых. Не царамоніцца ён і з самым «панам богам». Наадварот, галоўнага канавода цёплай «сьвятой» хаўрузы беларускі ратай яшчэ болей бэсьціць. Так яму, богу, і трэба: шчыра заслужыў. І селянін малюе бога, бяручы сабе ў натуршчыкі божых прыхлебнікаў—чарнарызьнікаў.

У беларускіх казках бог прадстаўляецца п'яніцай, вінакурам, злодзеем і г. д. Словам, у божай істоце сабраны густы экстракт усіх злачынстваў духавенства. Вось некалькі сюжэтаў аб богу з «Бѣлорусскаго сборника», выпускаў III і V. Раманава.

### С а в а ч к а.

Савачка, сьвятыя Ягоры, Мікола і сам бог пусьціліся красьці. Укралі спачатку барана і напяклі мяса. Пасьля яды абакралі чалавека і г. д.

### Салдат.

Стары салдат сустрэўся на дарозе з богам, які паказаўся салдату ў выглядзе старога дзеда. Салдат меў пры сабе тры капейкі. Ён запрасіў бога ў карчму і частаваў яго гарэлкай.

### Гарэлка акаянная, а не праклятая.

У лесе, ня дужа далёка ад дарогі, было вялікае балота. У гэтым балоце ідалы гарэлку гналі. Па гэтым самым лесе ішоў раз бог з Пятром-Паўлам. Бачыць бог: дым дужа валіць.

Бог пасылае Паўла паглядзець, што там такое. Там яго пачаставалі гарэлкай. Павал упіўся дап'яна і забыўся аб богу. Бог не дачакаўся і паслаў Пятра. Упіўся і Пятро. Бог, не дачакаўшыся, сам пашоў паглядзець,—пачаставалі і яго гарэлкай.

### Бог і мужык.

Бедны мужычок купіў на рынку жарэбную кабылку. Астаўся ён на дарозе начаваць каля аднаго старычка. А стары гэты быў сам бог. Бог уткнуў калок у зямлю і казаў мужыку прывязаць кабылку да гэтага коліка.

Назаўтра ўстаюць яны рана, ажно кабыла ажарабілася. Вось яны, бог з мужыком, пачалі спрачацца за жарабя. Мужык

кажа: «Кабыла мая ажарабілася». Бог кажа: «Колік мой ажарабіўся». Пачалі яны судзіцца, а бог усё выігрывае, бо падкупляе грашыма судзьдзяў.

Чуць іх рассудзіў сьвяты Гаўрыла.

У вышэйпамянёных і многіх падобных казках аб богу ядрана адмалёвана яго фігура і яго натура. Так разумее бога беларускі селянін. Гэты вобраз бога так моцна адбіўся ў псыхіцы беларуса, ажно ў аднэй з гадавых рытуальных купальскіх песьняў (Шэйн, «Белорусския песни». 1874 г., Спб.), якая сьпяваецца дзявочым хорам з году ў год, сам бог «мяды сыціць», «віно курыць», «сына жэніць» і «дачку выдае». Словам, распусьціўся бог да таго, што хоць ты яго стрымлівай. Вось гэта песьня:

«Гарол, божа пціца,
Высока лятаеш,
У бога бываеш,
Што чуеш, відаеш?»
— Я й чую, відаю,
Што й сам гасподзь робіць:
Сам бог мяды сыціць,
Ільля піва варыць, —
Сам бог сына жэніць,
А Ільля дачку выдаець.
Сам бог у радасьці,
А Ільля у жаласьці,
Як Ільля сына жэніць,

А бог дачку выдаець,
Ільля піва варыць,
А бог віно курыць.

Майстры бібліі і эвангэльля намалявалі постаць бога, падобнага да іх, з усімі рысамі чалавечага характару, а беларускі багамаз пайшоў гэтым-жа шляхам: дадаў богу яшчэ некалькі штрыхоў, і абраз вышаў зусім закончаным.

VIII.

## Элемэнты хрысьціянства ў беларускіх народных творах.

Не хачу быць тэндэнцыйным і аднабокім у маёй маленькай характарыстыцы аб рэлігійнасьці беларускага селяніна. Пэўная частка нашага сялянства пасвойму пераняла хрысьціянскую ідэолёгію, але пераніцавала гэта на свой «паганскі» капыл. Ёсьць у нашай народнай творчасьці шмат духоўных вершаў, апокрыфаў, бэтлейка, «тры каралі» і іншая прынесеная к нам рэлігійная літаратура, якая распаўсюджвалася каталіцкімі езуітамі і школьнікамі-бурсакамі. Творы гэтыя былі лёгкія па зьместу, так што часьць няграматнага сялянства выўчыла іх напамяць. Разумеецца, пры гэтым дазвалялася пераробка і ўласная імпровізацыя. Такім чынам, усе гадавыя народныя «паганскія» песьні і казкі маюць на сабе слабы нанос хрысьціянізму, але гэта так усё пераблутана з культам працы і прыроды, што цяжка часам прыкмеціць, дзе канчаецца адно і дзе пачынаецца другое.

Хрысьціянствуючыя сярод народнай гушчы на Беларусі дзеляцца на тры чась-

ці: 1) вандруючыя кустарныя духоўнікі старцы, 2) бэтлейшчыкі і хаджэньне з гвяздай і 3) абрадавыя гадавыя песьні дахрысьціянскіх сьвят, якія сьпяваюцца па вёсках на каляды, вялікдзень і г. д.

1) Старцы-жабракі, сьляпыя лірнікі,— гэта людзі, выкінутыя жыцьцём, ці дзеля свайго гультайства, ці дзеля фізычнага калецтва за борт вясковага дабрабыту, якія вандруюць па хатах, сьпяваюць „Лазара“, моляцца на рынках ці пад касьцёлам „за душачкі“, за што вясковы люд іх нагараджае грашыма і дабром. Гэта, так сказаць, профэсыяналы-напоўдухоўнікі, якія налаўчыліся рознымі спосабамі вымäніваць у вясковай бабы яйцо, кавалак лёну, сала і хлеба. Пры выпадку яны займаюцца і зладзействам. Яны яшчэ дзеляцца на касты: „бедныя“ і „багатыя“. Бедныя ходзяць пехатой і ўсе свае бэбахі трымаюць на плячох у торбах, а багатыя разьяжджаюць на конях, і «скарб» свой возяць на вазох. Некаторыя з іх маюць свае хаты, кавалкі зямлі. Яны маюць сваё духоўна-жабрачае прызваньне за заробак. Некаторыя з іх нават граматныя,—„кантычнікі“ (галоўным чынам з каталікоў), якія заўсёды з кантычкі чытаюць малітвы пад касьцёлам. Часам папы і ксяндзы коса на іх пазіралі, лічачы іх чуць не конкурэнтамі. Вось гэткія „вандруючыя ду-

хоўнікі“ імпровізавалі малітвы на беларускі лад. І з імі, як з болей даступнымі і як з беднымі людзьмі, народ наш і меў стасункі. Яны і кармілі народ вясковы мякінай хрысьціянскага духоўнага хлеба.

2) Бэтлейшчыкі—гэта былі гарадзкія і местачковыя мяшчане-рамесьнікі, шаўцы, краўцы і г. д., якія давалі спэктаклі па гарадох, мястэчках і вёсках Беларусі. Рэлігійная частка бэтлейкі была бадай-што парасійску і мала цікавіла нашых сялян. Цікавіла іх болей усяго жартаўлівая, бытавая частка, якая па зьместу далёка была ад рэлігійнасьці. Бэтлеечныя прадстаўленьні скончылі сваё існаваньне ў нас у пачатку гэтага сталецьця.

3) Абрадавыя песьні хрысьціянскага характару ў нас таксама моцнага грунту пад сабою ня маюць. Гэта ёсьць тыя самыя „паганскія“ песьні з недарэчнымі дадаткамі, як прыпеўкі, імён хрысьціянскай тройцы і цэлай пллоймы сьвятых. У гэтых абрадавых песьнях сялян ня так моцна цікавілі папоўскія багі, як тое, каб было:

«У торпах укладна,
На таку ўмалотна,
Ў арудзе прысыпна;
У печы прысушна,
У млыне прымолна,

Ў дзяжы падыходна,
У печы румяна,
На стале сытна,
У сям'і сьмірна!»

(З вялікоднай песьні. „Бел.сборн." вып. III Раманава).

Ня дзіва, што па Беларусі рэлігійныя часткі абраднасьцяў адпалі, а асталіся толькі чыста «паганскія», г. з. у народных песьнях па нашых вёсках фігуруе толькі быт ратая і культ Працы.

Нельга сказаць, каб слаба-хрысьціянскія „цёмныя" элемэнты беларускага сялянства былі зьверападобнымі, антымаральнымі і несправядлівымі людзьмі. Наадварот—яны не заразіліся хвараблівай псыхікай рэлігійнага чалавека, які кожын дзень грашыць і богу моліцца, які стараецца як найболей натварыць злых учынкаў, каб потым папасьці ў рай праз пакаяньне, які займаецца крадзяжом і грабествам, а выкупляецца ў бога хабарамі і гасьцінцамі, як у валасьці гарэлкай.

На такіх дзівадлаў-сьвятошаў мы знаходзім крытыку ў нашых народных казках. У зборніку Сержпутоўскага знаходзім казку аб тым, як адзін забіў падарожнага, які начаваў у яго хаце. Справа гэта выкрылася з тае прычыны, што знайшлі ў забойцы мясныя піражкі, якія суседзі бачылі ў таго па-

дарожніка. Калі запыталіся ў чалавека, чаму ён ня зьеў піражкоў, каб сьледу не пакідаць, дык ён адказаў, што была серада, а ў сераду ня можна есьці скаромнага. Вось да чаго часам рэлігія даводзіць чалавека: з аднаго боку ён шчыра верыць у дурны рэлігійны забабон, а з другога боку ён не баіцца грэху забіць чалавека. Рэлігійны забабон—частка яго штодзённага жыцьця, убітая ў яго мазгі духоўнікам праз пастаянныя казаньні. А што тычыцца выпадковага грэху, дык тут заўсёды ёсьць выхад: падзяліў частку сваёй здабычы паміж духоўнікам і богам—і чысты ад грахоў...

Чалавек пакаяўся ў грахох сваіх, і справа з богам пакончана. Дзеля агітацыі духоўнікі розных рэлігіяў трубілі аб пакаяньні вельмі голасна праз свае ярыхонскія трубы.

„Адзін каяньнік даражэй перад богам ста праведнікаў"- кажа хрысьціянская рэлігія. „Тое, што даступна каяньніку, нёдаступна і праведніку"—кажа аналёгічна жыдоўская рэлігія.

Спачатку гэты кліч да пакаяньня магчыма быў зусім шчыры, але кепска ён адбіўся на людзкой псыхіцы: рэлігійныя правадыры самі падаюць повад да ўчыненьня грахоў. Раз каяньнік даражэй у бога за праведніка, дык ясна, што няма нічога лепшага, як грашыць і каяцца. Тут прыемнае

з карысным злучаецца ў адно. Выігрываюць і парафіяне і духоўнікі. Парафіянін прыходзіць да „духоўнага бацькі“ з пакаяньнем, а „духоўны бацька“ за грошы адпускае яму грахі. За грошы дастаеш пропуск у рай. Нічога сабе крамка!

Рэлігійная псыхопатыя тварылася тысячалецьцямі і калечыла чалавечую натуру. Рэлігійны фанатык лічыць за добрую дзею перад сваім богам зьдзекавацца над „недаваркам“— над чалавекам іншай веры. Гэта рабілі крыжакі, гішпанскія інквізытары, Магамэт і інш. З агідай да чужых адносяцца фанатыкі жыдоўскай веры, дзікія паступкі вытвараюць польскія «дэвоткі», якія прымаюць самы гарачы ўдзел у жыдоўскіх пагромах.

Пішучаму гэтыя радкі здарылася бачыць гэткую карцінку. У часе польскай окупацыі я аднаго разу ў сьвяточны дзень праходзіў каля новага касьцёлу ў Менску. Пад касьцёлам доўга і набожна кленчыла адна старая бабулька. Падняўшыся на кійку, яна прыкмеціла мяне і пачала са мной гутарыць: „Мне ўжо 80 гадоў. Дачакалася я тэй шчасьлівай хвіліны, калі цэрквы перарабляюць на касьцёлы. Хацела-б я перад сьмерцю пабачыць, як выражуць усіх жыдоў у Менску. О, каб пан Езус мне даў гэткае шчасьце“... Пры гэтым яе вочы на старым, зморшчаным тва-

ры зьялі ад натхнёнай шчырай набожнасьці. Або леташні судзебны процэс рабіна з Нова-Маскоўскай вуліцы, які ўкінуў труп памёршай кабеты ў кватэру „грэшніцы“, дзеля грахоў якіх людзі паміраюць.

Такіх прыкладаў набожнага псыхозу знойдзем і па сягонешні дзень на кожным кроку. Гэта ўсё выгадавалася ў царквох, сынагогах і касьцёлах; выкавалася ў псыхіцы фанатыкаў зьвярыная ненавісьць да чужых людзей.

У беларускага селяніна вялікай рэлігійнасьці няма. Аб духоўніках, богу і сьвятых ён у сваіх байках апавядае з кплівасьцю і гуморам, як аб нейкіх чужых істотах, якія яго зусім ня тычацца. А калі гэтыя сьвятыя істоты маюць дачыненьня з яго дабрабытам, дык кажа аб іх (аб папох і і ксяндзох) нават з нянавісьцю. Наогул, сярод беларускага сялянства хрысьціянскія міфы ўжо даўно перайшлі ў стадыю забаўных баек для маленькіх дзяцей.

IX.

## Нячыстая сіла.

Дагэтуль мы гаварылі аб тым, як нашае працоўнае сялянства ў сваёй вуснай літаратуры характарызуе «белую магію», г. з. рэлігію і яе прадстаўнікоў: боскую царскую сям'ю—тройцу, да якой «сьвятое ражство» прычэпліваецца як нешта чацьвёртае, вялікую сьвіту сьвятых і лейб гвардыю—духавенства. Цяпер глянем, што наш люд кажа аб «чорнай магіі»—аб сваіх шаптунох і «нячыстай сіле».

«Нячыстая» і «чыстая» сіла—дзьве родныя сёстры аднэй маткі, якія на ўвесь гістарічны працяг чалавецтва вандравалі між людзей ня толькі побач, але моцна абняўшыся. Хто верыў у бога і ў яго анёлаў, сьвятых і духавенства, той верыў таксама ў чорта і яго чорных духоўнікаў і чараўнікоў

Чараўніцтва ўспамінаецца ў пяцёхкніжжы Маісея, калі жрацы фараона канкурыравалі ў фокусьніцтве з Маісеем. Далей

там загадана ад імя бога «чараўніцу не пакідай у жывых». Гэта гаворыцца тады, калі нябесная сьвіта была яшчэ невядома, бо ў пяцёхкніжжы аб душы і аб нябесным жыцьці мала гаворыцца. Ужо ў часы прарокаў калі прарокі пастаянна «гаварылі» з богам, і людзкая фантазыя малявала нябеснае царства болей жывымі фарбамі, тады і чараўнікоў зьявілася паводлуг бібліі розных калібраў і сартоў. Ужо пры цару Сауле яны кішэлі ў Палястыне і тады ўжо лічылі за сьвятую справу нішчыць іх. Хрыстос ужо выганяў чарцей з людзей. Пры ім яны ўжо былі разьдзелены на розныя катэгорыі. Тады ўжо былі вядомы сатана, бес, д'ябал, Вэльзэвуль і інш.

Кожная рэлігія лічыла сваіх праціўнікаў «падданымі нячысьціка». Гэтак лічылі нячысьцікамі жыды хрысьціян і хрысьціяне жыдоў. Гэтак і хрысьціяне і жыды лічылі нячысьцікамі старагрэцкіх багоў. Потым кожная рэлігія мела «служыцеляў» д'яблу паміж сваіх адназаконьнікаў. Калі хрысьціянскі дзікі фанатызм дахадзіў колькі сот гадоў таму назад у Эўропе свайго найвышэйшага пункту, тады ня было дня, каб на «сьвятым божым вогнішчы» ня былі спалены некалькі дзесяткаў няшчасных людзей, абвінавачаных у вядзьмарстве. Вінавацілі ў тым, нібы яны моляцца д'яблу і прыносяць моры і няшча-

сьці на людзей. Ва ўсіх дзяржавах Эўропы (галоўным чынам у Нямеччыне і Францыі) хрысьціянскае духавенства спаліла ў тыя часы соткі тысяч нявіноўных людзей, якія нібы-то на лысагорках спраўлялі вядзьмярскі «шабаш» (ад старажыдоўскага слова шабас—суботні дзень адпачынку, які хрысьціянскае духавенства наўмысьля паганіла). Гэтыя людзі нібы-то служылі чорную імшу чорту і паганілі сьвяты крыж. Галоўная мэта духавенства зноў-жа была—здабываньне для цэркваў рухомай і нярухомай маемасьці, якую яны конфіскавалі ў «чараўнікоў». Дзеля гэтай мэты яны, галоўным чынам, стараліся вінаваціць у чараўніцтве багатых людзей, хаця дзеля блізіру яны і бедных вінавацілі. Людзі, якіх духавенства мучыла рознымі дзікімі спосабамі і калола цела іголкамі або гарачым жалезам, шукаюа чы небалючае месца—«пячаць д'ябла»—няшчасныя ахвяры духавенства нагаварывалпры гэтых пытках дзівацкія нябыліцы абі нячыстай сіле. Брэд вар'яцеўшых ад страшнай болі людзей пратаколіўся, як чыстая праўда. А хто з духоўнікаў, які меў болей-меней чалавечае сэрца і адважваўся намякаць на тое, што чараўнікі—гэта напалоханыя хворыя, няшчасныя людзі, якія толькі выдумляюць байкі аб нячыстай сіле, дык той адважны духоўнік сам пападаў на агонь ін-

квізыцыі, як недавярак і як падпаўшы пад уладу д'ябла.*)

Уся Эўропа тады кадзілася пахам смажанага людзкога мяса няшчасных ахвяр, якія паліліся на хрыстусовым агні. Над усёй Эўропай тады ўладалі хрысьціянскія духоўнікі, якія заграбалі груды золата загубленых імі людзей у імя бога.

Словам, веруючымі ў д'ябла пры ўсіх рэлігіях лічыліся рэлігійныя праціўнікі і тыя, у якіх духавенства магло-бы конфіскаваць багацьце,—і абавязкова, дзе ёсьць «чыстая» сіла, там павінна быць і «нячыстая». Адна сіла моцна трымаецца і другая моцна. Адна слабее—і другая слабее. Бо гэта ёсьць—дзьве сястры аднэй маткі. Гэта ёсьць добры гандаль для духавенства дурачыць несьвядомыя масы і нажывацца пры гэтым. Гэта ёсьць у духавенства спосаб барацьбы за сваю ўласьць. У пачатку сучаснай рэволюцыі духавенства пробавала ўжываць свой стары спосаб: гаварыла сваім парафіянам, што новая рэволюцыйная ўлада ідзе ад антыхрыста, бо ад бога можа быць на зямлі толькі ўлада яго памазаніка-цара. Народ сваім чынам духавенству ня верыў. Але вернемся да сваёй тэмы.

---

*) У тыя часы духавенства на Беларусі рабіла тое самае—паліла на вогнішчах ведзьмакоў, што відаць з старых актаў Полацку, Вільні і г. д. Гл. „Археографическия сборники".

Побач з хрысьціянствам існавала на Беларусі і вера ў цёмную сілу. Паводлуг сваёй магчымасьці і тутэйшыя папы і ксяндзы ў свой час стараліся з амбону асьведамляць масы ў справе д'ябла і нячыстай сілы. Ёсьць дзень—павінна быць і ноч. Ёсьць бог—павінен быць і д'ябал. Павінны быць рай і пекла. У раі пануюць анёлы, у пекле —чэрці. Анёлы намаўляюць людзей рабіць тое, што духавенству падабаецца, а чэрці наадварот. Але, як-бы сабе ня было, сіла „чыстая" і „нячыстая"—адна капэля. Адно аздабляе другое, адно дапаўняе другое, і над кім духоўніку ўдавалася мець уплыў, той мусеў верыць і ў чорта. І чым болей у нас зьяўлялася цэркваў і касьцёлаў па гарадох і мястэчках і крыжоў на вясковых магільніках, чым часьцей поп ці ксёндз наведваліся сваіх парафіян,—тым болей зьяўляліся на вёсках чараўнікі і чараўніцы, і чэрці—на пустырох-балотах. Пачыналі выдумляць, што людзі прадаюць чорту душу, перакідваюцца ў ваўкалакаў і грызуць людзей, адбіраюць у кароў малако, псуюць людзей, насылаючы на іх моры і г. д.

На запатрабаваньне зьявіўся і тавар. Выйшла на сцэну і беларуская ведзьма:*) звычайная старая, бедная, абарваная вяс-

*) Прапраўнучка сьвятой набожнай жрыцы аднаго з стараславянскіх багоў.

ковая бабуля, або касавокі дзед, які сваім калецтвам і выглядам будзіў фантазію ў простых сялян, выклікаў страх, і людзі палохаліся гэтых «спульнікаў» сатаны. У большасьці задабрывалі чараўнікоў і чараўніц, садзілі іх у ганорны кут на вясельлі, хрэзьбінах ці іншых урачыстасьцях, каб яны толькі не «псавалі» людзей. Бывалі і выпадкі страшнай расправы з ведзьмарамі, západaзронымі ў злым учынку. Нападзе мор на гавяду ці на людзей—уся ваколіца зьбярэцца і заб'е дзікім чынам ведзьмара.*)

А так званыя ў нас ведзьмары ці вядзьмаркі былі або людзі, якія жылі ў адзіноце, вызначаліся ці калецтвам цела, ці страшным выглядам, або шарлатаны-профэсыяналы, якія чмуцілі простых людзей, на манер цяперашніх хірамантаў і картачных варажбітак, якім верыць і частка інтэлігэнтаў, якія выклейваюць па гарадох свае афішкі і рознага стану людзі прыходзяць да іх з „візытамі". Гэтыя людзі лечаць ад розных хварсб, знаходзяць нібы-то крадзеныя рэчы, чытаюць чалавеку нібы-то яго будучы лёс і г. д. Яны ў большасьці хітрыя, добрыя псыхолёгі і гіпнотызёры. Нашыя чараўнікі, якія займаюцца замовамі і даюць зёлкі ад розных хвароб, прад-

*) Цікава, што ў мінулым сталецьці на Беларусі і сярод жыдоўскіх „цадыкаў" кабалістаў „сытро ахаро"—г. з. „нячыстая сіла" таксама займала ў хасыдзкіх кнігах пачэснае месца

стаўляюць сабою проста першабытных мэдыкаў. Некаторыя з іх нават трохі знаёмы з лякарскімі травамі. Замовы, шэпты, якія яны да гэтага дадаюць, ёсьць свайго роду гіпнотызм дзеля ўзмацаваньня веры простых людзей у іх чараўніцкую сілу, каб мець уплыў цэрэмоніямі і нязвычайнай абстаноўкай на сваіх „пацыэнтаў“. У слабай форме гэтая традыцыя ўплыву над пацыэнтам захавалася і ў нашых праўдзівых дактароў.

Быўшыя земскія валасныя зубадзёры мелі вясковых шаптуноў за конкурэнтаў. Што тычыцца саміх замоваў, іхняга зьместу, дык яны былі профэсыянальным сакрэтам, перадаваліся з роду ў род перад сьмерцю бацькам сыну і г. д. цэлымі тысячалецьцямі. Тэксты замоваў маюць два элемэнты: 1) старасьвецкі паганскі і 2) хрысьціянскі.

Старасьвецкія замовы маюць часам інтэрнацыянальны характар у форме стара-даўняй малітвы. Вось, напр., замова раны:

„Уйдзі кроў у кроў,
Костка ў костку,
Жылка ў жылку,
Сустаўка ў сустаўку.“

Гэтакі самы зьмест маюць і чэскія і старанямецкія замовы.

Тое самае ёсьць і ў старалацінскай мове (глядзі „Бѣлоруссы“ том III, народная поэзія, Карскага).

Хрысьціянскія замовы тварыліся манахамі як працівая дзьдзе паганскім замовам. У гэтых замовах фігуруюць бог, прачыстая маці, Хрыстос і сьвятыя. Гэтыя замовы манахі пускалі ў народ. Вось, напр., частка замовы проціў вочных хвароб.

„Госпаду богу памалюся,
Сьвятой матары прачыстай пакланюся.
Прачыстая маці,
Хадзі вока шаптаці
І бяльма зганяці.
Шоў Сус Хрыстос
Па калінавым масточку,
За ім беглі тры хэрточкі...“ і г. д.

Беларускі селянін часткова ўжо даўно перастаў верыць шарлатанам - чараўніком. А тым болей людзі бывалыя, якія-бачылі сьвет і апрача сваёй глухой вёскі, сьмяяліся з чараўнікоў, паказваючы грамадзе сялян нікчэмнасьць выдуманай духавенствам і іншымі абманшчыкамі байкі аб нячыстай сіле.

Вось дамо тут са зробніка Сержпутоўскага народнае апавяданьне аб гэтым.

### Заламка.

„У нашай вёсцы жыў адзін вядзьмар. Яго знала ня толькі ў суседніх сёлах, але мо' ў цэлай акрузе. Гэта быў такі вялікі вядзьмар, што ён усё знаў. Ніхто ня сьмеў яму сказаць наперакор, так яго баяліся.

Толькі быў там адзін чалавек; ён многа па сьвету ходзіў: кажуць, быў аж у Краўлеўцы. От гэты чалавек не баяўся ведзьмара і ўсё казаў, што вядзьмар толькі чмуціць. Але яму ня верылі.

От той чалавек пашоў у сваё жыта і зрабіў там заламку. Цераз нядзелю, а мо' й дзьве, прыходзіць к таму ведзьмару і просіць, каб ён вырваў тую заламку.

Пашлі яны на поле.

Падышоў вядзьмар к заламцы на шагоў дваццаць ды й кажа, што ня можа ісьці далей, такая моцная заламка. Скінуў гэта вядзьмар нагавіцы й сарочку ды так, як маці радзіла, папоўз к заламцы ракам. Паўзе і ўсё стогне, што вельмі моцна ўзьдзеяна.

Маўчаў гэта, маўчаў той чалавек, а як падыйшлі другія людзі, сеў на ведзьмара вярхом, дастаў з-пад палы гарапнік ды давай паласаваць ведзьмара.

— Вот-жа,—кажа,—я табе, хварэць тваёй матары, пакажу, як моцна ўзьдзеяна, бо гэтую заламку я зрабіў сам!

Раве нямым голасам вядзьмар, а той яго лупіць.

Біў-біў, пакуль здаволіўся ды й пытае:

— А што, ня будзеш больш добрых людзей чмуціць?

— Ня буду,—просіцца вядзьмар,—толькі пусьці жывога.

Пусьціў той чалавек ведзьмара. Усхапіўся гад, забыў і сарочку й нагавіцы апрануць ды так і сунуў наўцекача.

Падзівіліся людзі, думалі перш, што вядзьмар таго чалавека з сьвету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе і ня лыс.

Годзе вядзьмар з тае пары чмуціць.

Дык от якія ё ведзьмары!“..

У тым-жа зборніку знаходзім яшчэ адно апавяданьне такога зьместу, пад назваю «Атрабляне», дзе «калдун-вядзьмак» труціў сялянскіх кароў, і яго за гэта моцна пабілі. Вядзьмак гэта рабіў дзеля таго, каб наганяць на сялян страх і каб яны яго дзеля гэтага частавалі гарэлкай.

Сяляне разумеюць, што замовы ёсьць нікчэмны набор слоў, што гэтыя словы зусім не памагаюць, а шаптуны толькі маюць гэта за свой заробак, абманываюць народ. У Сержпутоўскага ёсць апавяданьне і такога характеру:

### Шаптуха.

У якімсь сяльцы жыла старая баба. Была яна адпа, бы тая былінка ў полі. Усе яе кроўныя ды сваякі даўно паўміралі, а яна як асталася, дык і ліпіць, як тое гнілое ды старое дзерава. От так і жыве сабе старэнькая

баба: калі ё што, то зьесьць, а калі няма, дык і так абыйдзецца.

Мо' яшчэ доўга так пражыла-б тая баба, але от раз ехаў праз тое сяльцо тамашні пан, убачыў ён старэнькую бабу ды й зьдзівіўся, што яна так доўга жыве.

— Хіба-ж ты, бабка, яшчэ жыва?—пытае пан.

— Жыва, паночку, мой саколіку...

— Як ты жывеш?

— Якое маё жыцьцё, паночак мой даражэнькі! Як так жыць, то лепей гніць: зарабіць—ня здолею, а дзеткі ды ўнукі ўсе даўно паўміралі. Некаму й вады падаць.

— Чаму-ж ты, баба, ня шэпчаш, або не варожыш?

— Ня ўмею, мой лябедзіку!

— Слухай, баба, я цябе навучу.

— Навучы, мой саколе ясны, навучы, каб не дарма сьвет займала.

Пан прыхіліўся к вуху ды й кажа бабе: «от як пазавуць цябе к хвораму, дык ты пахукай трэйка на яго ды й шапчы—сіголаў жыў, сіголаў не. Пашапчы о гэ трохі, ды дай яму выпіць вады, то ён і паправіцца. А калі памрэ, то сіголаў яго бяры. От затое цябе будуць карміць і паважаць».

Падзякавала баба пану ды й пачала шаптаць, пачала людзей ратаваць.

Пашла прачутка мо' па ўсяму сьвету, што аб'явілася такая баба, такая шаптуха, што яна вельмі добра лечыць людзей і гавяду. Ды й ня толькі лечыць, але і ўсё ўгадвае. Павалілі к тэй бабе людзі адусюль; нясуць і вязуць тэй бабе ўсялякага дабра.

Тымчасам той пан, што наўчыў бабу шаптаць, чуе аб тым, ды толькі сьмяецца сабе ціханька з дурных людзей. Але ось пашоў якась той пан на паляваньне, спацеў ды пакрычаў праціў ветру, от і зрабілася ў яго ў горле скула.

Пан к дактарам — куды там — от, от скула задавіць і толькі. Жонка кажа, каб пазвалі тую бабу, а пан і слухаць ня хоча: але, нарэшце, як прыпёрла ліха, дык згадзіўся, каб пазвалі й тую бабу.

Прышла баба, а пан ужо чуць дыхае. От давай баба хукаць ды шаптаць «сіголаў жыў, сіголаў не».

Прыслухаўся пан, ды як учуў, што баба шэпча тое, што ён яе наўчыў, дык яго апанаваў такі сьмех, што ня можа аж вытрымаць.

А баба шэпча й шэпча.

Слухаў, слухаў пан, ды як зарагоча, — дык скула ў горле й трэснула. Пан выздаравеў».

Цяпер ужо чараўнікі і шаптуны бадай зусім вывеліся на беларускіх вёсках. Людзі

ў іх мала вераць. Пашырэньне асьветы па вёсках зьмяце і апошні пылок гэтых забабонаў аб «нячыстай сіле», якую духавенства старалася падтрымліваць і папулярызаваць, бо духавенства ведала, што калі людзі перастануць верыць у «нячысьцікаў», дык перастануць верыць і ў «чысьцікаў»—у духавенства і іхніх багоў, бо як «чорная», так і «белая» магія—аднаго поля ягадкі. Мэта ў іх адна: трымаць народ у заняпадзе і голадзе, каб самім добра жыць.

У савецкіх часопісях ня раз яшчэ здараюцца нататкі аб забабонах па вёсках і ў цяперашнія часы; пэўна, частка сялянства яшчэ паддаецца часам «нячыстай» сіле.

Вельмі часта здараецца, напрыклад, так, што поп прыяжджае да селяніна ачысьціць яго хату ад „нячыстай сілы“ малітвамі і «сьвятой вадой», або селянін прыводзіць да папа «папсутага нячыстай сілай» сына, каб поп выганяў з яго гэту «нячыстую сілу». Духоўнік, замест таго, каб высьветліць гэту справу сумленна перад сваім парафіянінам у тым духу, што ніякай нячыстай сілы няма, —яшчэ ўмацоўвае гэту веру сваімі маніпуляцыямі над звычайна хворым чалавекам. Поп ня можа іначай рабіць, бо чорт—яго шчыры сябра. З народнай веры д'яблы згінуць тады, як ня будзе ў нас папоў і ксяндзоў.

Ва ўсялякім выпадку сяляне ў гэтым кірунку не цямнейшыя за інтэлігэнцыю, якая займаецца і па сягоньнешні дзень тэасофіяй і окультыўнымі навукамі, верціць столікі, выклікае духоў, бяседуе з істотамі «таго сьвету» праз фокуснае выстуківаньне і займаецца іншымі дурацтвамі гэтага роду. А гэтым займаюцца людзі з вышэйшай асьветай! Мы пэўны, што савецкая асьвета ня выпусьціць з сваіх школ модэрнізаваных чараўнікоў і шаптуноў, а здаровых, псыхічна-нормальных людзей, якія будуць прыносіць краю праўдзівую карысьць.

---

X.

## Паны.

Шмат хто кажа, нібы ў рэлігіі захаваны лепшыя ідэі чалавецтва, як, напр.: „Любі бліжняга, як самога сябе“, або першыя асновы этыкі ў дзесяцёх запаведзях, царства бедных у эвангельлі і г. д. Згаджаемся з тым, што некаторыя асновы маралі ёсьць у рэлігіі. Але на гэтых маленькіх зярнятках лепшай чалавечай думкі ў кодэксах рэлігіі навалены вялізарныя сьметнікі ненавісьці аднэй нацыі да другой, цэлыя стагі цёмных забабонаў і дзікіх поглядаў на людзей і акружаючую прыроду. Мы бачым, што дзецішчы рэлігіяў—духоўнікі, якія выхоўваліся тысячалецьцямі на рэлігійных «мудрых» навуках, былі ў сэнсе любові і міласьці самымі найгоршымі прадстаўнікамі роду чалавечага. Ва ўсім працягу гісторыі духоўнікі купаліся ў абманах, зьдзеках над бедным людам і скакалі перад багатымі і сільнымі зямлі на задніх лапках. Горы трупаў, страшныя вогнішчы з людзей, дзікія мучэньні, жудасныя войны ведае чалавецтва дзякуючы рэлігіям.

Кожная з рэлігіяў у пэрыодзе сваёй сілы дамагалася стварыць на зямлі свой «інтэрнацыянал». Аб гэтым прарочыў Ісая, калі гаварыў, што ўсе народы зямлі прыдуць у Ерусалім на паклон Егаве, гэтага дабіваўся Іслам, аб гэтым марылі апосталы эвангельля, так думае і цяперашняе каталіцтва. Але не праз ненавісьць адных да другіх, не праз цёмныя забабоны духоўнікаў, не праз боскую пашану багатых ідэі інтэрнацыяналу абхопяць усю зямлю, а праз згуртаваньне бедных працоўных мас, якія знаць ня хочуць ні неба, ні пекла, якія апіраюцца толькі на сваю сілу--сілу мускулаў і розуму. Толькі праз гэта людзі сабе чакаюць вызваленьня. Што значаць беднаму чалавеку дробныя крупінкі маралі ў пагніўшых пэргамінах рэлігіяў, калі пісакі і прапаведнікі іх—духавенства—самі робяць усё наадварот, проціў сваіх-жа законаў. Калі ў працягу шмат тысячалецьцяў рэлігіі нічога карыснага і шчасьлівага людзям не далі, а толькі гадавалі пэўныя касты асоб, хворых нэрвамі, веруючых часам у свае штучна выклікаными цуды-галюцынацыі, а нічога іншага праз сваё гультайства стварыць не маглі, дык трэба на карысьць чалавецтву аб'явіць рэлігіям вайну не на жыцьцё, а на сьмерць. Гэтую вайну аб'явіла беднае сялянства ў сваёй вуснай літаратуры на рэлігійныя сюжэты.

Двух зьдзірцаў мелі над сабою сяляне— духоўніка і пана. Царкоўныя званы і панская нагайка здружыліся, ссябраваліся і ціскалі горб ратая ўсё ніжэй і ніжэй да нямой маткі глебы, прымушалі гарапашніка працаваць да крывавага поту, да балючых мазалёў. Мужык адчуваў гэтую вялікую крыўду над сабою, бо зьдзекі былі надзвычайныя: поп і ксёндз замест абстрактнага бога і нябесных багавіц падсунулі мужыку фізычных багоў—цара і пана, а пан мяняў людзей, падданых сваіх, на сабак, прымушаў маладзіц вясковых карміць грудзьмі шчанят, гвалтаваў сялянскіх дзяўчат і мужыкоў на сьмерць засьцёбываў бізуном. Мужык гэта адчуваў вельмі сьвядома. Часам падымаў паўстаньні, забіваў свайго пана, мсьціў як мага, але ў большасьці цешыў сябе толькі ў казках-байках, дзе выказваў спадзяваньне аб тым, што надыйдзе час, і ён, ратай, стане вольным чалавекам, роўным з усімі на зямлі.

Сялянскіх гэрояў-рэволюцыянэраў за час паншчыны было шмат. Захаваліся аб некаторых і казкі. Вось аб адным з такіх рэволюцыянэраў расказвае селянін Дудар з вёскі Чудзін у Случчыне („Сказки и разсказы бѣлоруссовъ - полѣшуковъ“ Сержпутоўскага).

## Пану навука.

Слухайце-бо! Скажу вам ня казку, а шчырую праўду. Дзе тое было — цяпер я забыўся, бо ўжо, бачыце, старасьць. Цяпер ліха, жаляцца маладзічкі, а даўней было гарэй. Ня вельмі даўно тое было, яшчэ за паншчыну. От як трапіцца такі паганы пан, то хоць лажыся й памірай — нічым яму ня ўгодзіш. Кажуць-жа: зачыні чорту дзьверы, то ён улезе праз вакно. Гэтак і ліхі пан. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць:

— Ня так, шэльма, ня так, галган, ня так, пся-крэў!—і есьць цябе поедам, есьць, зьневажае, зьдзекуецца. А чуць што — жыўцом скуру злупіць.

Ой, цяжка, вельмі цяжка было за ліхімі панамі. А ліхія паны немаль былі ўсе. Эгэ-ж!

От у адным двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вычвараў! Як толькі ён не назьдзекаваўся над людзьмі. Сек ён і мужыкоў і баб, старых і маладых. Расьцягнуць, бывала, маладзіцу, або дзеўку, цівун тыча пальцам ды й кажа:

— Пане, о!

— Лупі па „о!“—кажа пан, і фурман пачне пярэсьціць, што аж пара валіць. Не аднаго ён засек на сьмерць і нічога не баяўся. А людзей ён лічыў гарэй сабак...

Што ён вычвараў над маладзіцамі й дзеўкамі, дык сорам і казаць. Ня мог той паганы пан ужо больш нічога прыдумаць, каб пазьдзекавацца над людзьмі, от і вялеў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валоў толькі ў двор, а па канцох сяла пастанавіў рагаткі ды й не дазволіў праехаць к мужыком ніякому купцу.

От і павялі людзі ў двор валоў на продаж. Але прывядзе хто вала, а пан і кажа:

— Што-ж ты прывёў, асёл? Гэта ж ня вол, а казёл.

І заплаціць, бы за казла, а то яшчэ пашле на стайню ды ўсыпле ў сядзібу паўсотні гарачых.

Доўга мучыліся бедныя мужыкі з такім паганым панам: доўга цярпелі, бо што зробіш, каму пажалішся!? Ведама, паны за панамі цягнуць. Але ось знайшоўся адзін чалавек, што адплаціў таму пану за ўсе людзкія сьлёзы ды за крыўду.

Дык вось як тое было:

Быў там удалы, здатны хлапец. Рана ён асірацеў, але і адзін узьбіўся такі на хаджайства. Горды быў хлапец. Ніхто яго ніколі й пальцам не зачапіў. Толькі от ён прыводзіць у двор на продаж вала. Убачыў пан, вышаў на ганак ды й кажа:

— Што-ж ты прывёў, асёл! То-ж ня вол, а казёл!

Пазіраў той дзяцюк, што блізка нікога няма каля пана, паказаў яму папліску ды й пытае:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я-ж прывёў к табе вала, не казла...

І давай пярэсьціць, давай дубасіць пана тою папліскаю. Рэзаў-рэзаў, пакуль сам здаволіўся.

— От-жа табе, пане, за тое, што ты людзей мучыш. Калі вычухаеш гэта, то чакай мяне яшчэ трэйка. Трэйка я здыму з цябе скуру.

Сказаў гэта тое дзяцюк ды ўцёк у лес. А ведама, якія даўней былі цёмныя ды густыя лясы! У іх жыві колькі хочаш,—ніхто цябе ня трапіць.

Нашла дворня пана бяз памяці: так яго вымясіў той дзяцюк. Толькі на трэці дзень трохі ачухаўся пан і вялеў злавіць Рымшу, —так звалі таго дзяцюка. Ды куды там—яго й сьлед ветрам замяло. Немаль нядзель сем пракачаўся пан: чуць чорту душу не аддаў. Якіх толькі дактароў не справаджалі—нічога не пэрадзяць, бо яму, мабыць, Рымша адсадзіў печанцы.

А што ўложыць хам, то ня выйме й пан.

Але ось не па малым часе прыехаў у двор якісь вэнгерац. У яго ўсялякіх зель-

ляў, усялякае лякобы. Рад пан, частуе, просіць таго вэнгерца, каб яго палячыў.

Пагасьціў вэнгерац у двары ды й давай лячыць пана. Вялеў гэта ён напаліць лазьню: павёў пана туды, пасадзіў яго на лаўцы ды й вялеў аберучкі дзяржацца за жэрдачку, а сам пачаў націраць пана ўсякімі мазямі. Сядзіць пан, трымаецца аберучкі за жэрдачку ды толькі крэкча.

Але нядоўга пан так сядзеў: выцяг вэнгерац з кішэні суромец, прывязаў ім к жэрдачцы панскія рукі, заткнуў пану вехцем горла, узяў хварасьціну ды й кажа:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я-ж прадаў табе вала, не казла.

Бачыць пан, што гэта Рымша, а не вэнгерац, хоча крычаць, ды ня можа, бо вехаць у роце: круціўся пан, бы ўюн на гарачай скаварадзе, а Рымша дастаў з-пад палы канчук і давай хрысьціць паганага пана па чым папала. Лупіў, лупіў, немаль усю скуру садраў ды й давай пасыпаць пана сольлю. Самлеў пан ад болю.

А Рымша сеў на коней ды й паехаў сабе. Толькі яго й бачылі.

Доўга хварэў пан, чуць не паўгода пракачаўся. Усе думалі, што ўжо яму прышлі канцы. Але ліхога й сьмерць не бярэ: к вясьне трохі вычухаўся пан і хацеў ехаць заграніцу на воды, ды, бачыце, грошай ня-

ма. От уздумаў ён прадаць лес. Пашла поголаска, і пачалі купцы аглядаць лес. Таргаваліся яны, таргаваліся, ды ня сходзяцца аб цану, бо пан вельмі даражыўся.

Толькі ось прыехаў якісь бачна вельмі багаты купец. Павёў яго пан аглядаць лес. От пан хваліць лес, а купец толькі ўсё адводзіць пана ў гушчарню ды ў нетру. Забраліся яны ў такую гушчэчу, што й сьвету сонейка ня бачна; от купец давай абдымаць хвоі, сажнямі мерыць таўшчыню. Абхапіў і пан адну хваіну, а купец хуценька выхапіў з кішэні суромец ды й прывязаў пана к хвоі. Бачыць пан, што тут неперaліўкі і хацеў крычаць, зваць на ратунак, але так спалохаўся, што няма голасу. Але ось купец паказаў яму папліску ды й пытае:

— Што гэта, бяроза ці лаза? Я-ж прадаў табе вала, не казла.

Тут пан дагадаўся, што гэта Рымша, ды аж у калёшы напусьціў. Тымчасам Рымша запхаў пану мохам рот ды й давай пярэсьціць па чым папала, ды прыказваць, каб больш ня зьдзекаваўся над людзьмі. Біў, біў Рымша пана, чуць на сьмерць не забіў, ды так і кінуў прывязаным к хвоі, бы падла. Так да вечара і ўсюсеньку ноч правісеў пан на хвоі, чуць яго нудзьга ня зьела, пакуль дворня нашла.

От тут ужо пан цэлы год пракачаўся: усё ня можа выздаравець. Няма ачунку. От і радзяць пану ехаць на воды. Прадаў гэта пан лес, прадаў збожжа ды гавяду. Сабраў многа грошай ды й даьай выладжвацца на воды.

Тымчасам Рымша ўсё цікуе за панам. От толькі пан выехаў з двара ды ўехаў у лес, як Рымша ўжо зрабіў на яго пастку. От ён паставіў на дарозе ганоў на трое адзін ад другога двох конных хлапчукоў з доўгімі паплiскамі. Толькі пад'ехаў пан, як першы хлапчук трасе папліску ды й крычыцы

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза?

А сам па каню ды й наўцекача.

— Лапайце, лапайце!—крычыць пан,— то-ж галган Рымша!

Фурман адрэзаў пастронкі, сеў на каня ды й пагнаўся за хлапчуком. Але той сунуў у лес і чорт ведае куды дзеўся. А фурман папёр дарогаю ўперад, мо' вярстоў дзесяць.

Тымчасам заехаў упярод перад панам другі хлапчук, паказаў папліску ды й пытае:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза?

— Лапай, лапай яго, галгана! — крычыць пан на лёкая,—то-ж Рымша.

Ускочыў лёкай на другога каня ды й пагнаўся за хлапчуком. Астаўся пан адзін.

Тут Рымша высунуўся з-за выскаці ды й паказаў пану папліску:

— Што гэта, пане, бяроза, ці лаза? Я-ж прадаў табе вала, а не казла.—І давай дубасіць ды пярэсьціць пана тою папліскаю. Зьбіў Рымша пана на горкае яблыка, забраў усе грошы ды й пашоў сабе ў лес у сваю зямлянку.

Кажуць, потым Рымша многа дабра рабіў людзям. Яшчэ да тых час у цёмным лесе стаіць гара. Яе называюць «Рымшаваю Гарою». Гэта паміж Запольлю і Навасёлкамі (Мазырскага павету). Дык кажуць—там жыў той Рымша.

Дык вось да чаго даходзіць помста селяніна: ён ня толькі мсьціць пану звычайным чынам за пастаянныя зьдзекі над ім, мужыком, але й помсту выдумляе на панскую манеру—не забівае адразу, але некалькі гадоў падрад ён мучыць пана. Гэта робіцца наўмысьля—на страх другім паном. Тут прыходзіць на памяць адна палеская легэнда аб тым, як мужык праз помсту забіў пана за тое, што пан прымусіў яго жаніцца на аднэй дзяўчыне, з якой потым пан жыў. Гэтая легэнда вельмі прыгожа апрацавана расійскім пісьменьнікам Караленка пад назваю «Лес шумит».

Але ня часта мужыку ўдавалася мсьціць пану за зьдзекі; у большасьці пан рабіў з

мужыком тое, што яму, пану, жадалася - удавалася бяскарна. Шмат бяды нацярпеўся мужык ад пана.

«Хто бяды ня знае, няхай у хама спытае»—кажа беларуская народная песьня (Шэйн, «Матэр'ялы», 1, № 617).

Калі дзе пану спадабалася, напр., сялянская дзяўчына, дык ён павінен быў яе здабыць сабе без супярэчак. У праціўным выпадку, калі яго ўгаворы, часам і золата не памагалі, дык пан забіваў сваіх афяр.

Такога гатунку народная песьня стварылася на Случчыне ў пачатку мінулага сталецьця аб прыгожай дачцы бондара, якую спадабаў нейкі пан Хаміцкі. Яго слугі спаймалі яе і прывялі да пана Хаміцкага. Яна ня згодзілася быць яго палюбоўніцай, і пан забіў яе. Гэта песьня пад назваю «Бандароўна» мае шмат варыянтаў, сьпяваецца па ўсёй Беларусі і нават перавандравала на Украіну. Вось адзін з варыянтаў гэтай песьні (Шэйн, М. 1, 1):

«Ой, чаму-ж то пан Хаміцкі
Той час не жаніўся,
Як у лесе на арэсе
Голуб урадзіўся?

Ой, чаму-ж ты, бандароўна,
Ў той час замуж не шла,

Як у млыне на камені
Пшанічанька ўзышла?
У мястэчку Церастэчку
Каманда стаяла,
Там-жа наша бандароўна
Ўсю ночку ня спала».

Ня спала, бо баялася пана Хаміцкага, які стаяў на чале гэтай слаўнай каманды. І добрыя людзі параілі прыгожай дачцы бондара ўцячы:

«Гаварылі бандароўне
Ды добрыя людзі:
«Уцякай ты, бандароўна,
Ліха табе будзе!»

Бандароўна паслухалася:

«Ой, як скочыць бандароўна
Межамі, лугамі,
А за ёю пан Хаміцкі
З сваімі слугамі».

Бедная мужычка папалася ў рукі распуснага й моцнага пана. Спаймаўшы яе, Хаміцкі прапанаваў ёй добрае жыцьцё пры ім, але яна не паслухалася. Тады ён загадаў ёй пець песьні, а сам стаў набіваць стрэльбу, каб яе забіць.

«А ці лепей, бандароўна,
Ў сыром пяску гніці,
Як за мною, за Хаміцкім,
Ў атласе хадзіці.

— Ой, лепей, пане Хамiцкi,
Ў сыром пяску гнiцi,
Як за панам за Хамiцкiм
Ў атласе хадзiцi“.

Ох як выцяў бандароўну
Пад левае вуха,
Засталася бандароўна
I сьлепа i глуха».

Пан Хамiцкi забiў бандароўну. Прышлi яе бацькi ды з плачам i галошаньнем яе пахавалi. Гэты матыў выкарыстаў беларускi поэта Янка Купала для сваёй поэмы «Бандароўна» («Спадчына», 1922 г.).

Такiх паноў Хамiцкiх было шмат на Беларусi. Нават пасьля паншчыны паны Хамiцкiя глядзелi на вясковых дзяўчат, як на жывы тавар, якi можна выкарыстаць для сваёй пахацi. Вось новая народная песьня:

«Ой да тучыца, хмарыцца,
Дваранiн дзеўцы хвалiцца:
— Табе, дзяўчына, сноп нажну...
— Я табе, дваранiн, лоб паб'ю!»

Тут ужо беларуская вясковая дзяўчына сьмялейшая i выказвае сваю ненавiсьць да пана сьмела.

Страшнае й жудаснае было жыцьцё нашага селянiна пры паншчыне. Аб гэтым нават i панскiя лiтаратары шмат пiсалi. Выкарыстоўвалi гатовыя сюжэты, якiя нiякая

фантазія, здаецца, не магла-бы стварыць. Вось пабачым панскі быт і адносіны паноў да мужыкоў паводлуг апавяданьня селяніна з Мазыршчыны. Гэты селянін сам памятаў паншчыну (Гл. зборнік Сержпутоўскага «Сказки и разсказы бѣлоруссовъ полѣшуковъ»).

### З апавяданьня селяніна Аземшы аб панох.

*(Вёска Лучыцы, Мазырскага павету).*

#### Як паны адносяцца да мужыкоў.

Гэта было яшчэ за паншчыну. Вы ўжо ня памятаеце, бо, пэўна, тады яшчэ не радзіліся на сьвет. Хіба то сьвет, што дзесятак або другі паноў ды багатых людзей панавала, а наш брат, гарапашнік, так мучыўся, што ня рад быў і жыцьцю. І нашто толькі бог так даў на сьвеце, што той, хто жыве праўдаю ды гаруе—мучыцца, а хто ліхам ды круцельствам—пануе.

І чаго толькі паны не вычваралі, як ня зьдзекаваліся над імі! Але мо' вы думаеце, што паны былі ліхія, што яны ня мелі жаласьці ў сэрцы й затым так вычваралі?

Не, мае браткі, — паны былі такія-ж людзі, як і мы з вамі, былі жаласьлівыя, мо' больш нас, і такія добрыя ды лагодныя, бы анёлы, але гэта толькі к свайму брату, к вольнаму, а не к мужыку. Бачыце, чорт, а

мо' бацькі закрылі ім вочы, зацямнілі розум і яны не хацелі ведаць, што й мужык такі-ж чалавек, як і яны.

### Паны мужыкоў за людзей ня лічаць.

Але што гаварыць тады, калі яшчэ й цяпер паны мужыкоў ня лічаць за людзей і робяць перад людзьмі такое, што й сорам казаць, робяць і не саромяцца.

«Пані наняла мяне, каб я яе звазіў у адзін двор на сваёй кабыліцы. Запрог я кабылку, вытаптаў драбінкі саломаю, пасадзіў паню ды й павёз. Гэта якась было на лету, у Пятроўку ці што. От едзем мы ды едзем, толькі пані сядзіць на возе ды ўсё чухаецца. Мабыць у саломе было многа скочак. Чухалася яна, чухалася ды й давай зьнімаць з сябе ўсё адзеньне. Едзе пані голая, у чым маці радзіла, толькі парасонікам закрываецца, а тымчасам насустрэч ідуць або едуць людзі. Дык нічагусенькі—пані не сароміцца людзей.

Дык от ехала пані немаль увесь дзень і не саромілася ні мяне, ні другіх мужыкоў, бо яна іх ня лічыць людзьмі, а гавядай, а ведама, гавяды ніхто не сароміцца.

### Распуста паноў.

Што паны не выробляюць з вясковымі дзеўкамі з самага маленства, чаго яны ня

спробуюць, каб мецць самы вялікі слодыч, а як прыдзецца жыць з паняю, дык і пойдзе ўсялякае ліха ды хваробы. А пані сабе-ж наравяць, каб толькі мець слодыч, ды каб хараства ня згубіць.

Малады пан не глядзеў на хаджайства, а толькі думаў аб тым, каб ужыць слодыч. І пачаў ён зганяць у двор гожых дзевак ды маладзіц, вялеў ім скідаць усю адзежу й голым гуляць у садзе. Тымчасам ён зваў к сабе суседніх паноў ды ўсялякіх паўпанкаў, бегаў з імі за дзеўкамі з бізуном у руках і як сам вычвараў, што хацеў, так і другія паны. Але от напрыкрылі яму веськія дзяўчаты й маладзіцы і давай ён адусюль прывозіць розных паненак. Усе пакоі запаганіў.

### Сямейнае жыцьцё паноў.

Жыве малады пан з жонкаю, не чапае яе ды й рад, што і яна яго не займае, бо ён ужо ня можа мець з жанчынамі дачыненьне,—ядуць яго пранцы. От пакачаўся пан гадоў са тры ды й здырдзіўся.

### Панскія імяніны.

Прыехаў камісар*) у двор к пані ды й уваходзіць у пакоі. Зірне ён, аж там поўны

*) Кіраўнічыя гаспадаркаю ў маёнтку называліся даўней камісарамі.

пакоі гасьцей: усё пані ды паненкі. Усе паскідалі сукні, расплялі косы ды так голыя й ходзяць па пакоях. От пашоў камісар далей шукаць паню, усунуўся ён у другую станцыю, аж там цэлая чарада голых хлапцоў, а паміж іх трэцца й сама пані, вішчыць, сьмяецца, бегае за тымі мужчынамі ды наравіць абсеч ім крапівою.... Убачыў тое камісар, плюнуў ды й пашоў вон. Пані—за ім, просіць, благае, каб астаўся.

— Гэта-ж, — кажа яна,—мае імяніны!

Тымчасам панічы сышліся з паненкамі ды з панямі, ды й пашлі рагатаць, ды бегаць па ўсіх пакоях, бы коні. Чаго толькі яны не вычваралі. Але ось павяла пані камісара ў сад. А там яна вялела сагнаць з сяла маладых мужчын і жанок ды дзевак, напаіла іх гарэлкаю, наняла музыку і зрабіла забаву.

Тымчасам паны й паненкі выбеглі з пакояў у сад ды й памяшаліся з мужыкамі й мужычкамі. Кажуць, што дзеля гэтае рэчы мужыкі смачней...

### Зьдзекі паноў над вясковымі дзяўчатамі.

І зрабіў пан маладога шляхту на камісара і хацеў аддаць за яго сваю дачку; але камісар не схацеў, бо ён вельмі спадабаў дачку тае маладзіцы, што яго выгадавала (яго, як сірату, паводлуг апавяданьня

Аземшы, выгадавала мужычка). Пранюхаў гэта пан ды й вялеў аддаць тую дзеўку замуж за сьвінапаса. А сьвінапас быў ужо стары ды самы лядашчы, гультай, п'янчужка.

От, як пачула тая дзеўка, што пан вяліць аддаць яе замуж за такога лядашчага чалавека, дык спалохалася да й галосіць, рагоча, бы кручаная. Бачыць камісар, што нічога ня будзе, што загубяць яго дзяўчыну, сабраўся, забраў яе ды й пашлі яны ў сьвет няведама куды. Агледзеўся пан, што няма дзеўкі, няма і камісара, дык так расьсярдзіўся, што й дух выперла.

### „Жаласьлівасьць" далікатных і кволых паняў.

Мужыкі абяднелі, пухнуць ад голаду, бо некалі хлеба зарабіць: пані заганяе па штодзень у двор. Тут яна вялела будаваць харомы й даглядаць катоў, сабак ды старых коняў. Яна, бачыце, вельмі жаласьлівая над гэтымі жывёламі; яна адусюль назьбірала коп пяць усялякіх катоў,—і сама не даесьць, а іх даглядае. Назьбірала валачашчых сабак, корміць іх, мые, чэша ды абшывае. Цалюсенькія дні даглядае гэтую погань сама й трымае на тым дзеле ўсіх баб. А здохлым канякам яна збудавала стайні й прыставіла к гэтаму падлу людзей і вялела служыць. А як здохне кот, сабака або здыхліна-канятка, дык пані плача, бы па родным бацьку,

вяліць плакаць і другім, а потым робіць труну, хавае, бы людзей, і над магілаю кладзе прыклад. Уся дворня ды ўсё сяло толькі й рабіла на гэтую пошкуць. А гані была такая жаласьлівая, такая жаласьлівая над катамі ды сабакамі, што часам з маладзіц ды з дзевак скуру зьдзірала, калі яны нядобра даглядалі тую жывёлу. Вельмі яна карала тых маладзіц, што шкадавалі сваіх дзяцей і ўкрадкі кармілі іх сваімі грудзьмі, а не катоў ці сабак, як вялела пані. Дык от якая была жаласьлівая пані!

Тут ужо ніякія комэнтарыі не патрэбны,—няпісьменны селянін вельмі ярка, жыва, у спакойна-эпічным стылю Гомэра адмаляваў панскае жыцьцё. Мужык паказаў нават выраджэньне арыстократыі, няздольнай ужо да нормальнага жыцьця, бо яна, арыстократыя, згніла ў похаці, ад «райскіх вечароў» публічнай распусты. Адно асталося ў гэтых выжыўшых з ума выродкаў—панскі, недарэчны гонар. За гонар і рукамі й зубамі пан трымаецца па сягоньняшні дзень. Няхай сабе ён зьбяднеў, астаўся без кала і двара—яго жывіць гонар. Ён вядзе свой ганорны род ад самага патопу. Хоць мышы даўно згрызьлі яго дваранскія паперы, але фамільны гэрб ён аднаўляе новымі фарбамі. Гонар пану даражэй за ўсё на сьвеце. Няхай сам бог госпад нешта ўчыніць проціў панскага

гонару—тады й богу пападзецца ад пана па заслугах.

Аб панскім гонары ёсьць у нашым народзе шмат гумарыстычных баек. Вось адна з іх (гл. зб. Сержпутоўскага).

### Дваранін.

Быў сабе адзін дваранін, на прозьвіска Пятроўскі. Ён ня меў ні двара, ні падданых, а так сабе валачыўся ад аднаго пана да другога. Дзе прыстане к паном на паляваньне, дзе трохі паслужыць намесьнікам, або аканомам. От так і жывіўся цэлы век.

Але, ведама, дваранін,—ён усё-такі спаганяе панства. Дармо, што ў яго часам у гаршчку трасца кіпіць, затое на назе чабот рыпіць. А на нашага брата мужыка інакш не пазірае, бы як на гавяду. Бывала на паляваньні крычыць:

— Мужык, гад! У цябе ў роце чорна!

Аднаго разу пан Пятроўскі пашоў да касьцёла, укленчыў ды й моліцца:—Пане Езу Хрыста, дай мне рублі трыста, але і без еднэго не вэзма.

Ходзіць ён кожны дзень да касьцёла ды ўсё моліцца, усё просіць рублі трыста, ні на шэлег не збаўляе.

Падслухаў тое ксёндз і вялеў арганістаму зрабіць пробу, што з таго будзе, калі даць Пятроўскаму без аднаго трыста рублёў.

Арганісты залез на хоры ды й спусьціў адтуль на нітачцы дзьвесьце дзевяцьдзесят дзевяць рублёў у Пятроўскага перад самым носам.

Пятроўскі пералічыў грошы, палажыў іх у кашэню ды й кажа:

— Кеды пан Езу Хрыста даў рублі трыста без еднэго, то дась і ўшыстко. Дзенькуваць за боскую ласку.

Пры гэтых словах Пятроўскі падняўся на ногі й хацеў ісьці, але чуе хтось кажа:

— Хоць-жа пан Пятроўскі шляхціц, але кеп!

Гэта сказаў ксёндз, бо яму шкада стала грошай. А Пятроўскі падумаў, што гэта кажа Езус. Закіпеў Пятроўскі, аж затросься ад злосьці ды й крычыць на ўвесь касьцёл:

— Цо, цо? Я кеп?!... З ласкі боскей естэм пан Пятроўскі, радавіты шляхціц да патопу ды пржытым і двожанін, гэрольдэм утвердзоны, а ты з жыдкоў!

Гэтага роду баек ёсьць сярод беларускага народу шмат. Але пяройдзем ад кляса-бытавых да рэволюцыйна-сымболічных мотываў у беларускай народнай творчасьці.

XI.

## Сымболічна-рэволюцыйныя мотывы.

Ва ўсіх сваіх казках, наогул, беларускі селянін укладывае пэўную філёзофічную ідэю, ў алегорычнай і сымболічнай форме. Усюды у іх праходзіць барацьба дзьвюх сіл — дабра і зла. Звычайна дабро перамагае зло: вядомая тэндэнцыя, якой прытрымліваліся нават клясычныя пісьменьнікі ўсяго сьвету ад часоў біблії і старадаўніх грэцкіх клясыкаў да апошніх клясыкаў мінулага веку. Гэта былі тыя хадзячыя моралі і ісьціны, якія каваліся на горне народнай мудрасьці тысячамі гадоў.

Жыцьцё нашага селяніна, абхопленае вечным заняпадам, вечным зьдзекам над беднатой, паказывала на практыцы адваротнае, што зло перамагае дабро. Як хрысьціянскае духавенства ні старалася зьнішчыць у сялянскай псыхолёгіі дух протэсту проціў гэтай несправядлівасьці, як папы й ксяндзы ні стараліся выхоўваць у сваіх „блудных авечак“ хрысьціянскую нявольніцкую пакорлівасьць перад сільнымі,—перад царом і панамі, як яны ні тлумачылі сялянам, што

гэта ўсё ад бога, што так павінна быць, — але селянін з гэтым мірыцца ня мог. Са зьнявагай і ненавісьцю адносіўся селянін да духавенства, гуморыстычна ;й дабрадушна глядзеў ён на цуды сьвятых і самога бога, а да свайго нявольніцкага становішча ён адносіўся вельмі сур'ёзна. Добра разумеў ён сваё політычна-экономічнае становішча, доўга, усё жыцьцё сваё, ад пакаленьня ў пакаленьне, думаў над тым, „з чаго ліха на сьвеце?“ і тлумачыў яго зусім правільна. Казкі на гэтыя мотывы, праўда, трохі туманныя, сымболічныя, але іначай не магло быць: каб селянін гаварыў свае рэволюцыйныя думкі проста, ня ў баечнай форме, дык ён-бы згніў у царскай турме.

Вось адна з гэтых казак са зборніку Сержпутоўскага пад назваю «Іван Прастачок», скарочаная намі з прычын частых паўтарэньняў.

### Іванка Прастачок.

У якімсь краю жылі людзі, і пачаў да іх лятаць страшны зьмей і пачаў дабро цягаць і людзей к сабе хватаць. Людзі яму будавалі харомы, акопвалі іх канавамі, насыпалі валы зямлі і там гінулі. А зьмей хватае ды валочыць туды ўсё новых ды новых людзей.

Працуюць людзі на зьмея, а самі пухнуць з галаду і мруць, бы мухі. Тыя людзі, што асталіся жыць у харомах зьмея, зрабіліся яго ліхімі слугамі і пачалі дзерці скуру з людзей.

І пачалі яны лічыць людзей гарэй гавяды, пачалі сароміцца, што самі яны людзі, пачалі выдумоўваць сабе ўсялякія назьвіскі. Хто назваў сабе зьмеем, хто ваўком або мядзьведзем ці другім зьверам, хто арлом, коршакам ці другою птушкаю, хто якім кольвек дзеравам, і гэтак яны далі сабе назьвіска.

Дык от скуль узяліся паны Сьвінскія, Ваўкі і г. д.

Тымчасам зьмей пачаў гніць, бы падла. Ляжыць ён на адным баку тысячу гадоў. Разышоўся ад яго смурод па ўсіх пакоях. Пашла вонь на ўвесь сьвет. Прасьмярдзелі й пачалі гніць і паны.

От служаць людзі дохлым панам і гніламу зьмею, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя, халодныя ды за працаю сьветлага сонейка ня бачаць.

І людзям здаецца, што лепшага жыцьця й ня трэба, бо так жылі й дзяды й прадзеды.

Але вось нарадзіўся ў тым краі хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, заняпаў зма-

ленства ды так астаўся на ўсё жыцьцё. І назвалі яго людзі Іванкам Прастачком.

Прышлі да Іванкі старцы-дудары.

Першы раз зайгралі—Іванку розум далі, другі раз зайгралі—у сэрца жалесьці нагналі, трэці раз яны зайгралі—язык Іванку разьвязалі.

І пачаў Іванка Прастачок па сьвеце хадзіць, у дудачку граць, людзям праўду казаць. Як зайграе, дык і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на сьвеце, што адны пануюць, другія гаруюць; адны багацьцю лічбы ня маюць, другія з голаду падыхаюць.

От учулі ў палацах той вялікі голас ды й спалохаліся слугі зьмея, пачалі яны войска зьбіраць ды Івана Прастачка шукаць. Чуюць голас на ўсходзе—шамяляк яны туды. Палашы блішчаць, пікі, бы лес, тарчаць, гарматы грымацяць, а Іванкі ня відаць.势ануць ціха, бы на паляваньні, слухаюць, стаяць. Аж тымчасам чуюць голас на заходзе. Ідзе пошчак ад сяла да сяла, ад краю да краю. Кінуцца яны на захад: гоняць коняў, бягуць самі, шаблямі зьвіняць, з гармат страляюць ды Іванкі не спаймаюць.

От з тых часаў слугам зьмея ні ўдзень, ні ўночы ані збла спакою, бо бяды яны сабе чакаюць, бы вол доўбні.

З гэтай казкі адразу відаць, што пад зьмеем селянін разумеў цара, якому дапа-

магалі паны Сьвінскія, Ваўкі і іншыя. Зьмей з панамі пачалі гніць, іхняе царства страціла пад сабою грунт, бо зьявіліся народныя агітатары-рэволюцыянэры, якія будзілі нарсд. Вялікую небясьпечную для сябе сілу чулі „паны Сьвінскія“ у народных агітатарах. І паны высылалі проціў гэтых бунтароў царскае войска з гарматамі, але нічога не маглі зрабіць: „Ідзе пошчак ад сяла да сяла, ад краю да краю“. Моцны й трывалы дух народнай помсты, вельмі трывожацца паны. І вось яшчэ колькі дзесяткаў гадоў таму назад беларускі баечнік гаварыў:

„От з тых часоў слугам зьмея (цара) ні ўдзень, ні ўночы ані зблa спакою, бо бяды яны сабе чакаюць, бы вол доўбні“.

Гэтая „доўбня“ вісела нэд галовамі буржуазіі быўшай царскай Расійскай імпэрыі шмат гадоў, колькі разоў апускалася доўбня ўсё ніжэй, пакуль ня трэснула моцна па гнілых галовах: прышла Рэволюцыя 1917 г., а за ёй Акцябрская Рэволюцыя.

Ярчэй выказана гэта самая ідэя ў другой казцы таго-ж зборніку:

**З чаго ліха на сьвеце.**

Даўным даўно, спрадвеку, жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха ня зналі. Сьвет вялікі, усюды вольна, як патрудзіўся, так і пажывіўся. Ня было тады ні паноў, ні му-

жыкоў, а так сабе людзі жылі. І ня было на зямлі ні ліха, ні дабра. Людзі, бы кветкі цьвілі; жылі, бы птушкі ў небе ці рыба ў вадзе; жылі, што стрэлі, то ўжывалі—ні шчасьця, ні бяды ня мелі; так жыве й дзераўлянка.

І пазналі людзі, што ў каго ёсьць розум, той можа рабіць, што хоча. Розум пакажа людзям дарогу, як ліха адалець і як так жыць, каб усім было добра і каб ня было ліха.

Але шатан ня спаў. Давай гэта падбіваць дужэйшых, каб яны бралі ўладу над слабейшымі. Давай гэта дужэйшыя адбіраць ад слабейшых, што тыя ні зробяць; давай іх прымушаць рабіць на сябе, давай імі ўладаць, бы сваім дабром.

От гэты шатан дужэйшых ды хітрэйшых зрабіў панамі і аддаў ім у рукі ўсіх слабейшых людзей.

І пайшло з тае пары ліха на зямлі, пайшло такое ліха, што й сказаць ня можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы зьвяр'ё: пачалі іх мэнчыць ды зьдзекавацца, быццам гэта й ня людзі, а гавяда.

І паны ўзялі ўладу на зямлю, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць ды забіваць, ды адзін на другога насылаць.

— Мужык бяз пана абыйсьціся ня можа, —кажуць паны,—б'ецца, дзярэцца, сьцеражы ты, божа! Над мужыком трэба стаяць з бі-

зуном над каркам, ды яшчэ трымаць воз лазы за фольваркам, бо ў мужыка такая натура, што без бізуна сьвярбіць скура. Адно ліха на сьвеце будзе, як мужык вольнасьць дабудзе.

Тымчасам паны запанавалі й ліха-бы ня зналі, калі-б не пачалі вымышляць ды адзін другога есьці, пажыраць. Паны паміж сабою б'юцца-дзяруцца, а ў мужыкоў чубы трасуцца, ды лбы трашчаць, аж сківіцы вішчаць.

Так да тых час мужыкі гаруюць, а хлеба ня маюць, часам голадам падыхаюць, бо што ні зробяць, то паны зьдзіраюць.

І няма ратунку ад такога жыцьця, бо яно ўсё, бы каменьняў куча; зьверху цяжкае каменьне дробных на пясок расьцёрла; зьверху іх гнятуць другія, а на тых ляжаць і цісьнуць долу яшчэ цяжэйшыя і зьверху-ж лёг адзін вялікі камень... (Пад вялікім каменем разумеецца цар).

От спрадвеку й да тых час ліха людзей давіць, бы ў кучы той каменьне. Трашчыць куча, трэ каменьне, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутка асядае. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча...

Толькі тады чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе ды ў ладзе. І чаго толькі ня зробяць людзі,

калі возьмуцца за дзела грамадою, бы адзін чалавек. (Тут баечнік нават аб ідэях комунізму гаворыць)... Але от гэтага й ня зналі людзі, ня зналі, як жыць на сьвеце, каб усім было добра.

Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. От ад чаго ліха на сьвеце. Але радзіўся на сьвеце ясны розум і пачаў расьці; толькі расьце ён так ціха, так памаленечку, што чалавек век пражыве, а розуму чуць на крыху прыбудзе.

От, як вырасьце той ясны, бы сонейка, розум ды пачне сьвяціць людзям у вочы, дык тады ўсе пазнаюць, з чаго ліха на сьвеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысьць (паноў) і зажывуць на зямлі, бы ў раі. Мы ўжо не даждомся таго, але мо' нашы дзеці ці ўнукі такі дачакаюць.

Так беларускі баечнік канчае сваю філёзофічна-рэволюцыйную байку аб тым, як „ні бог, ні цар, ні багатыр“, а „ясны розум“ вызваліць людзей ад зьдзекаў буржуазіі. Стары баечнік беларус памёр з надзеяй, што дзеці ці ўнукі яго дачакаюць гэтага вызваленьня. Надзея спраўдзілася — Беларусь дачакалася вызваленьня; ясны розум рабочых і сялян і магутная сіла чырвонаар-

мейскіх штыкоў вызвалілі працоўны люд з-пад царска-панскага ярма. „Ясны розум“ будзе і далей кіраваць імі дзеля будаваньня лепшай долі працоўнаму люду.

---

XII.

## Паншчына ў народных песьнях і казках.*)

Беларуская народная творчасьць—гэта заварожнае люстра сялянскага жыцьця, якое адбівае жывы малюнак ня толькі за пэўны пэрыод, за маленькі час, але сцэнізуе быт ад самога пачатку гістарычнага існаваньня народу да апошніх дзён. Калі возьмем любую песьню, любую казку, дык адразу пабачым вобраз, пачуем непадроблены голас народу, які падсьвядома, інстынктыўна рваўся да вольнага жыцьця доўгімі вякамі. Наша народная творчасьць—гэта рухлівая колектыўная вусная летапісь, пісаная не ў манастырскіх мурох апоўначы гультаём манахам, але апяваная ў песьнях на соткі ладоў гора-нядоля мужыка-селяніна. На прасто-

*) Ужо як вышэйшая праца была напісана, мы задумалі дапоўніць яе яшчэ некаторымі матар'яламі для паўнаты сюжэту. Дзеля гэтага выйшла некаторая паўторнасьць зьместу: XII разьдзел „Паншчына ў народных песьнях і казках" павінен быць далучаны да X разьдз.—„Паны", а XIII разьдз. „Эвангэльле навыварат"—да XI разьдз. „Сымболічна-рэволюцыйныя мотывы".

АЎТОР.

рах палёў і лугоў араты бачыў вакол сябе волю, а на сваім карку адчуваў бізун панскага прыганятага, які не адыходзіў ад нявольніка ні на крок.

У селяніна вочы былі наліты крывёй ад натугі, пот, зьмяшаны з гразьзёю, цурком ліўся па твары, прыклейваў кашулю да цела; рыпалі балеўшыя косьці, рукі трэскаліся ад чорных нарастаў-мазалёў, а ў грудзёх гарталася-расла песьня...

Песьня гэтая была сплецена з балючых стогнаў, аздоблена бунтарска-гнеўнымі яскравымі вуглямі, асьвечана маланкавым стацьветам сялянскай затаёнай надзеі аб лепшым жыцьці-быцьці.

Песьня гэтая кіравалася тахтам грабель і цапоў; дзынканьне касы і шастаньне сярпоў на сьпелых каласох тварылі яе рытмы; зычная крынічка, пераліві рэчкі на лузе даравалі ёй час-ад-часу просьценькія вянкі рыфмаў; чырвоная калінка, шэрая зязюленька і зялёны яварок шчыра вартавалі беларускую песьню з абодвых канцоў: служылі ёй загартованымі прыпевамі-замовамі.

Апцугі нядолі рвалі песьню з гняздоў сялянскага сэрца, выцягівалі яе з глыбіні, з акрываўленымі карэньнямі; нібы ранены сокал, білася беларуская песьня аб родную глебу, цьвярдзела ў зычна-сталёвыя кавалкі, кідалася аб каменьні-крушні.

Водгалас пушчы падхопліваў яе, песьню, прапускаў яе праз сіта галін - пляцёнак, расьсяваў яе ветрам віхурным па ўсіх абшарах Беларускага краю. Па разлогах-далінах, па вёсках - сялібах яе сустракалі, як шчыра пажаданую госьцейку-свацьцю, жалейка, дуда, цымбалы і ліра.

— Хадзі, песьня родная, к нам у нашыя сьвятліцы! — на лад салаўіны прасіла жалейка; кволым голасам кленчыла дуда; дробным макам рассыпаючыся, шапталі цымбалы; залаціста - басавым голасам малілася ліра,—пагасьціш у нас і пойдзеш далей у вандроўку. Ніякія пяруны цябе не заб'юць, ніякія астрогі цябе не зьняволяць, ніякія мячы і стрэльбы ў цябе жыцьця не забяруць.

Ты, песьня, будзеш жыць вечна, з пакаленьня ў пакаленьне, пакуль прыдуць пісьменныя людзі і перальлюць цябе на белы пэргамэнт для ўнукаў і праўнукаў.

Нібы слуцкія паясы ,нібы зычна-барвяныя дываны беларускіх гарапашных сялянак, будзеш варажыць сэрцы родных песьняроў і вучоных, і пакажаш сьвету ўсяму, як жыў калісьці беларускі ратай — твой глебны творца.

Беларуская песьня, апранутая ў саматканку-мэлёдыю, носячыся на абрусе-самалёце ад вёскі да вёскі, мела асабістасьць надзвычайнай чарадзейкі: дзе-бы яна не пабы-

вала — усюды пакідала свой цень - двайнік. Кожная з песьняў мела дзесяткі вар'янтаў. Хто дадасьць новае слова, новы штрых, бледны вобраз заменіць болей яскравым — і, такім чынам, яна жыла ў народзе, які хмялеў ад яе, які кідаў яе ўшырку і ўвышку, нібы жыватворчую імшу свайму акамянеламу ідалу-лёсу. Але гэтая імша ня была малітвай пакоры богу-лёсу — не: гэта быў бунт-протэст процiў цёмнага бажышча, гэта быў крык-пракляцьце, кінутае богу папоў і прыгнятацеляў у самы твар...

Возьмем цыкль прыгоньніцкіх песьняў і зірнем на малюнак сялянскага быту недалёкага мінулага. У гэтым жмутку народных песьняў пабачым характар селяніна, яго перажываньні, яго адносіны да паноў і падпанкаў, яго барацьбу за волю, яго роспач і яго страшную помсту пану.

### Войт выганяе на прыгон.

**В о й т.**

На згон, на прыгон,
Па семера з двара вон!

**Дзеўка з багатай хаты.**

Пане, пане войце!
Хадзі, пане, ў хату;
Матка яешню спрагла,
А можа гарэлкі чарку найду.

Войт.

Лад, лад; трое нарад!..

*(Зноў кліча на работу).*

На згон, на прыгон,
Па семера з двара вон!
А дзяўчатам лёгкая работа:
Гліну мясіць!

Войт быў для прыгонных сялян вялікім страшылішчам. З гэтым падпанкам сяляне мелі пастаянныя стасункі, а ён меў над імі вялікую ўладу. Яго сяляне-нявольнікі задабрывалі рознымі пачастункамі, але гэта не памагала. Войт еў яешню ў сялян, піў іхнюю гарэлку, а заганяў на работу «па семера з двара», а дзяўчатам, якія наракалі, задаваў „лёгкую работу—гліну мясіць“.

Добра перадае народная песьня падробам зыкаў кліч на работу. У гэтых двух радкох:

«На згон, на прыгон,
Па семера з двара вон»!

як-бы чуеш ахрыплы голас п'янага войта і трывогу-страх вясковых дзяўчат, якія добра ведаюць, што ніякімі гасьцінцамі і ласкамі не адпросішся ў войта.

Вялікая была ненавісьць сялян да войта. Але толькі за вочы яны адважваліся выказваць яму сваю ненавісьць — у вочы гнуліся перад ім у тры пагібелі. Вялікая

была радасьць сялян тады, калі на войта нападала хвароба. Яны ўвекавечылі ў песьнях сваю радасьць з прычын хваробы войта:

Ой, Васілька, Васілёк!
Чаму-ж дужа весялёк?
Ці ня жонка радзіла,
Ці кароўка цяліла?
— І ня жонка радзіла,
Не кароўка цяліла:
Майго войта дабрадзея
Хваробка ўсхапіла!..
Крычыць, выець дабрадзейка,
Ёрзае печы,
Дрыгае нагамі
І вярзець адрэчы:
Сабірае мітурысы,*)
Вядзець ад дубецьця.**)
— Ой сашлі-ж ты, божа м'лы,
Войціку здароўе;
Прыбаў яму, божа добры,
Доўгае вячынкі—
Крычаць-ёрзаць на пячынцы,
Ды без адпачынку!
Можа-ж нашы сьлёзанькі
Трохі перасохнуць,
Можа-ж нашы ручкі, ножкі
Трохі адпачынуць.

Ненавісьць да войта проста мяжы ня мае: сяляне просяць у бога не таго, каб

*) Брэдзіць з гарачкі.
**) Бяз сэнсу гаворыць.

войт зараз-жа сканаў ад хваробы, але каб доўга-доўга жыў і каб крычаў-ёрзаў на печы без адпачынку.

Песьня ў сваёй будове і рытміцы носіць лёгкі, вясёлы характар беларускіх прыпевак-частушак да скокаў, толькі апошнія чатыры радкі раптам мяняюць свой тэмп і ад ранейшай гульлівасьці абрываюцца мімаволі на працяглы стогн, бо сьпявака прыпамінае вялікія зьдзекі войта.

### Работа на прыгоне.

Працуючы на пана, сялянская дзяўчына ні на адну хвілю пры рабоце не забывалася аб сваім ненатуральным становішчы, аб сваёй няволі і наракала аб тым, што яе маладыя годы змарнаваліся і што яна ўжо не сьпявае вясёлых дзявочых песьняў. Гэтую скаргу сваю дзяўчына вылівае ў сумную гармонічна-вобразную песьню:

Выйду, выйду за вароты,—
Рассыпаны карты,
Загубіла я малода
Дзявоцкія жарты.
Выйду, выйду за вароты,—
Рассыпаны дулі,
Я згубіла маладзенька
Дзявоцкія гулі.
Выйду, выйду за вароты,—

Рассыпаны персьні,—
Ой, згубіла я малода
Дзявоцкія песьні.

З другой песьні пры рабоце на прыгоне мы бачым, што і стараста—і то нажываецца ад сялян і ён мае над імі ўладу і, само сабою разумеецца,—гасьцінцы ад прыгоннага люду. Ад звычайных вясковых людзей ён вызначаецца сваімі «кужэльнымі анучамі і раменнымі аборамі». Аднак, ніякі гасьцінец не памагае—заганяюць на ўвесь тыдзень на работу, а ў нядзелю на варту:

А ў нашага ў стaрасты
Кужэльныя анучы,
Што кужэльныя анучы,
Раменныя аборы.
А ў нашага ў пана
Цяжкія прыгоны:
Як загоняць з панядзелку,
Дзержаць да суботы;
А ў суботу на работу,
А ў нядзелю на варту.

Пан селяніну дыхнуць не дае; селянін ня толькі ня можа сабе што-колечы зрабіць на сваёй паласе, а проста адпачынку ня мае і ў нядзелю, калі ўсе спачываюць. Рабіць на пана можна і ў нядзелю, калі «званы звоняць». Тут ужо і духоўнік слова ня скажа, бо працаваць на пана—вялікая за-

слуга перад богам. А чаму не працаваць у сьвяточны дзень для пана?—пан-жа надта «добры»:

Добры наш пан, добры наш пан,
Добры да работы:
Ой, як займе з панядзелку,
Рабі да суботы.
А ў нядзельку раненька
Усе званы звоняць,
А атаман з дзесятнікам
Насіць снапы гоняць.
Ой, насілі, панасілі,—
Селі спачываці,
Аглянуцца назад сабе,
Ажно сам пан скача,
Ды каго б'е, каго лае,
Каго так пытае:
— Ой, чаго вы, хлопцы, селі,
Чом снапоў вы не насілі?
— Ой, тым-жа мы не насілі,
Што ўжо ніўка мокра.

### З работы і ў хаце.

Доўгі дзень на панскім полі скончыўся. Людзі выпрастаюць сьпіны. Свабадней аглядаюцца навокал. Пільныя вочы прыганятага ўжо ня сочаць за кожным рухам працаўніц. Бізун ня гудзіць над каркам. Вакол прастор палёў. Кожны чуе, што зараз прыдзе да хаты, павячэрае цёплую страву і бу-

дзе адпачываць ад цяжкай працы—і неяк на душы робіцца лагадней. І вось, ідучы да хаты, пяюць песьню:

Ішлі мы да двору
З рана-параненька;
Ішлі мы са двору
Позьненькім-пазьненька.
Шэрыя зязюлькі—
Ку-ку! ку-ку!
А мы, маладзенькі—
Ух-ту! ух-ту!
Лесавыя пташкі—
Чырык! чырык!
А мы, маладзенькі -
Кульгік! кульгік!
Дайце вы мне вольку,
Я ў зязюльках апынуся,
Дайце вы мне вольку,
Я да пташак прылучуся.

Паглядаючы навокал, бачачы прастор, дзяўчына-прыгоньніца пачынае думаць аб волі і зайздросьціць птушкам, якія вольна сьпяваюць вакол. У часы адпачынку песьня яе робіцца настраёвай, смутна-лірычнай. Але гэта толькі адна хвіля. Прыходзіць працаўніца да курнай хаткі, дзе пануе голад, дзе ўся абстаноўка хаткі—бруд, галата сустракаюць яе,—тады душу яе атульвае туман бязьмежнай роспачы... З кожнага кута на дзяўчыну паглядае сьлязьліва-мутнае вока

вечнага гора, і яна траціць надзею вызваліцца з гэтага жыцьця. Ужо хіба да магілы гора будзе вісець над яе галоўкай вільготным туманам... Цяжкая дума агартае яе душу. Гэтую думу дзяўчына ціханька напявае. Смутная, працяглая мэлёдыя; жудасныя, жаласьлівыя словы рвуцца самі з кволых грудзей:

Людзі добрыя, скажэце,
Ай дзе мора адшукаць?
Любыя суседкі, не салжэце,
Як дарожаньку спазнаць?
Я у мора зьнясу гора,
Я на камень палажу,
Няхай топіцца ліхое,
Няхай ў донныя ідзець!
— Тое мора перасохла,
Ды дарожкі зарасьлі;
Хто хадзіў—не вярнуўся,
Ды нікому не казаў.
Тады гора ты утопіш,
Як свой век ты пражывеш,
Век працоўны, век нявольны
Да магілкі данясеш.
Туды гора не даступіць,
Туды кроку ня ступнець;
Дзе ты костачкі паложыш,
Адтуль гора уцячэць...

Так пэсымістычна глядзелі прыгоньнікі на сваё гаротнае жыцьцё. У тыя цяжкія

часы яны і мала спадзяваліся на вызваленьне. Жыцьцё было няміла. Маці, седзячы над калыскай свайго маленькага дзіцяці, малявала сабе яго будучыну ў вельмі чорных фарбах, прадстаўляла яго жыцьцё такім-жа, як і яе ўласнае—поўнае жудасьці і панскага зьдзеку; і ўсё вялікае, адвечнае каханьне маткі да роднага дзіцяці выяўлялася ў адным страшным пажаданьні, каб дзіцё лепей памёрла без пары... Ад вялікай пакуты, яна нічога лепшага і ня ведала чаго і жадаць. Вось гэта калыханка:

Ня плач, маё дзіцятка,
А цыц маё родна:
Вунь дзе войт ідзець,
На татку, на мамку
Ён бізун нясець.
У тым у бізуне
Скураты увіты,
На тым на бізуне
Сьлёзкі паліты,
Тыя сьлёзкі крывавыя
З сэрца раненага...
Схавайся ты, дзетка,
На божу пасьцельку...
Няхай тыя вочкі
Заплюснуць навекі:
Ня відзеў ты гора,
Гора мужыкова,

Ня ўзнаеш ты долі
Кроўкай палітое...

Войтам пужалі маленькіх дзетак. Рэальна і вобразна малявалі яго традыцыйны бізун, смак якога татка і мамка добра ведалі. Колькі жудасных, гідкіх сцэн панскага гвалту захаваны ў гэтай калыханцы, зафарбованай крывёю мужыцкай, абмытай іх горкімі сьлязьмі, зложанай са стогнаў душы... Для дзіцяці апрача «божай пасьцелькі» — магілы — ніякага паратунку няма.

Кожны кавалак быту таго часу авекавечваўся ў народнай песьні. Песьня перапляталася ўзорамі рытмаў, аздаблялася дзе-ні-дзе просьценькімі васількамі рыфмаў і разьбою-гравюраю яркіх вобразаў. Такім чынам старонку за старонкай чытаеш, нібы на бяросьце-папірусе напісаную, жудасную хартыю прыгонскага часу. У няволі гадавалася сялянская дзяўчынка. Ад самых малых гадоў прывыкла да працы, да мазалёў, аднак, краса яе расьцьвітала макаў-цьветам. Стан стройны, як яварок, вочкі зьяюць сінімі вогнікамі васількоў; косы русыя па плячох красуюцца і пахнуць, як мёд. Жыцьцё маладое кіпіць у кожным яе руху, шмат асалоды і вабнай радасьці захаваны ў яе грудзёх. Але гэты жывы скарб угледзеў «дваранін», прыкмеціў малады паніч і задумаў стаптаць гэту прыгожую кветку — дзяўчынку - сірату.

Яму гэта даступна. Яго бацькі мяняюць вясковых людзей на сабак, дык такая маленькая прыемнасьць—згвалціць прыгонную дзяўчыну—дазволена самым богам. Гэта зусім звычайная рэч. Такія ўчынкі вытваралі ўсе паны на розныя лады. Ад гэтага дзяўчаты ніяк абараняцца не маглі. Гора было дзяўчыне вясковай, калі яна вызначалася пекнатой. Кожная з іх перажывала вялікую трагэдыю. Гэта апявалася і ў песьнях. Даем адну з іх:

Ёсьць у лузе каліна,
Пад калінай дзяўчына;
Пад калінай стаяла,
Цьвет-каліну ламала,
Русу косу часала.
Прыехаў к ёй дваранін,
Схіліў каліну, каня напаіў,
Да дзяўчыны гаварыў:
— Чаго, дзеўча, тут стаіш,
Двараніна не баіш?
— Чаго-ж мне баяці,
Пад калінкай стаяці?
Ты дваранін—вашэць-пан,
Шукай сабе як ёсьць сам:
Шукай сабе у Любліне,
Не чапай мяне, дзяўчыну;
Шукай сабе у Аршаве,
Не рабі мне благой славы;

Шукай сабе у злоце,
Дай мне спакой сіроце.

Але ці зьлітаваўся над ёю паніч? Ці пашкадаваў сірату вясковую? Не такі панскі род, каб пашкадаваць бедную дзяўчыну. Не такое яго выхаваньне. І тысячы, соткі тысяч сялянскіх дзяўчат гіблі пад панскім зьдзекам...

І паны і прыгоньнікі сьпяць у роднай глебе адвечным сном. Крыжы на іх моглі-цах пагнілі ўжо, але водгалас панскага ка-таваньня і зьдзекаў даходзіць да нас па сягоньнешні дзень праз народную песьню, якая ніколі не памрэ і каінавым знакам бу-дзе служыць панскаму роду з пакаленьня ў пакаленьне на вечную ганьбу.

Бывала і так, што і паням вяльможным спадабаліся вясковыя дзяцюкі. Гэта зноў-жа трагічна канчалася для дзяцюкоў. Вінаватымі былі толькі падданыя. Дадзема адну такую народную бальляду пад назваю «Паня і Пятрусь»:

Недалёка ставу, ў Джуліні ў пана,
Вяльможная пані не раўню кахала:
Па пяць раз паслы пасылала,
А за шостым разам сама паехала.
— Пакінь, Пятруню, сеяць ды араці,
Хадзем да пакою, будзем панаваці;
Пакінь, Пятруню, пшаніцу малаціці!
Хадзем да пакою, будзем мёд-віно піці!

Але Пятрусь баіцца панскай помсты: ён добра ведае, як звычайна канчаюцца гэткія каханьні, і шчыра кажа пані:

— Баюся, пані, мёд-віно піці—
Хваліўся вяльможны з туга лука ўбіці!

Пані яго ўгаварвае:

— Ня бойся, Пятруню, няма каму ўбіці,
Паехаў вяльможны да суда судзіці.
Толькі-што селі мёд-віно кружаці,
Быў у пана слуга верны,
Той паехаў пана даганяці.
Дагнаў пана на калінным мосьце:
—Вярніся, вяльможны, ёсьць у пана госьці!
Прыехаў вяльможны ды стаў у брылі,
Вялеў падаці сваю астрогу,
Каб яго Пятруні ды ня пусьцілі.
Як толькі імасьць пана акном узрэла,
На ёй ўсё цела падзервянела.
«Ўцякайма, Пятруню, у ваконца цямнёнька!»
Пятрусь да дзьвярэй—у дзьвярох цясьненька.
Ой, узрэла паня стрэльбаньку грубую:
«Цяпер-жа з табою прапала, Пятруню!»
Ой, служыў Пятрусь паўчварта року,
А ўзяў заплату са стрэльбы па боку.

З Пятрусём здарылася звычайна тое, што павінна было быць пры такіх выпадках з рознымі «Ванькамі Ключнікамі»:

Укінулі Пятруся у халодну воду—

«Гэта табе, Пятруню, за харошу ўроду!»
Ляжаў Пятрусь тры дні, тры доўгія
дніны,
Пакуль яго знайшлі у Джуліні.

Паня была вельмі романтычная, яна шчыра кахала прыгожага Пятруся:

Як толькі паня аб тым дазнала,
Што знайшлі Пятруся, што верна
кахала,
Ухапіла паня сіню жупаніну,
Завярнула паня белу намітчыну,
Пабегла паня логам ды лазамі,
Абліваецца паня дробнымі сьлязамі:
«Ой, наце, рыбаловы, грошы карбаванцы,
Выцягнеце Пятруся—майго каханца!
Ой, дам, рыбаловы, гарэлкі напіцца,
Выцягнеце Пятруся хаця падзівіцца».
Прышла яго маці ды стала плакаці.
«Ня плач, матуню, няхай я паплачу.—
Цераз твайго сына сваё панства трачу».
— Ты будзеш паняй, будзеш панаваці,
А мне старэнькай трэба гараваці;
Ты будзеш, паня, мёд-віно піці,
А мой сын Пятрусь у зямельцы гніці.

Так сумна скончылася каханьне з «нераўнёй». Вясковы вершаплёт нават паказаў месца гэтага жаласьлівага здарэньня—у Джуліні.

### Паны і сяляне.

Вось у другой песьні народны поэт апавядае аб тым, як нейкія касары забілі пана Салывона, які жыў у Дарагінцы, Чарнігаўскай губ. Яго забілі перад самай воляй.*) Часам адважваліся прыгоньнікі і на такія ўчынкі над благім панам:

За гарою за крутою
Касарыкі косяць,
І у пана Салывона
Сабе хлеба просяць.
Ой, касілі касарыкі
Паўтары нядзелі,—
Ня бачылі касарыкі
Хлеба ні скарыны.

Людзі галадалі пры цяжкай працы ў благога пана, але цярпеньне перайшло мерку:

Ой, касілі касарыкі
Ды радзілі раду—
Ды забілі Салывона
За усю грамаду.

Ніякага жалю пясьняр-селянін ня выказаў да пана, а наадварот, радаваўся:

А ў нашага пана
Плецены тыны,—
Гэта табе, ліхі пане,

---

*) Гл. „Wypisy z bielaruskaj literatury“ II. cząść W. Łastouskaha стр. 64.

Гаспадарскі сыны.
У нашага пана
Пабіты калочкі,—
Гэта табе, ліхі пане,
Гаспадарскі дочкі.

Паводлуг погляду нявольніка песьняра тэго часу, усіх паноў трэба было забіць, бо ўсе яны ліхія і заслужылі гэткую кару, але, як заб'еш аднаго, дык на ўсіх нападае страх, і гэты ўчынак ім здаецца дзіўным:

У Кіеве агонь гарыць,
У Дарагінцы дымна;
Як забілі Салывона
Усім паном дзіўна.

Побач з забойствам пана складальніку вершу прадстаўляецца панская дачка багата ўбраная. Яе ўбраньне малюецца роўналежна з вобразамі забойства. Гэтыя параўнаньні вырваліся ў складальніка вершу інстынктыўна: багацьце і кроў зьмешаны ў адно, бо хто нажываў багацьце праз чужую працу, той павінен быць забіты:

Ў яго дочкі Галюточкі
На галаве лёчкі,—
Куды цяглі Салывона—
Крывавыя рэчкі.
Ў яго дочкі Галюточкі
Ў падолках мярэжкі,—
Куды цяглі Салывона—
Крывавыя сьцежкі.

Нават літасьці ня было да гора панскага сына:

Ой, як яго забіта,
На зямлі расьцягся,
Яго сынок Іванка
За сэрданька браўся.

І тое, што Іванка «браўся за сэрца», так-сама было прыемна глядзець. Нямала паны даліся мужыком у знакі, калі сяляне ўчынялі над панамі дзікія помсты, аб драбніцах якіх успаміналі ў песьнях з вялікай прыемнасьцю ды з асабістым смакаваньнем. Дзікія былі часы—жудасныя былі і ўчынкі. Гэтыя ўчынкі з боку сялян над панамі былі ня так часты і, як справядлівая заплата пану за пастаянныя гвалты над сялянамі, трэба сказаць, што гэтая заплата была кропляй проціў мора.

У той час, калі ў прыгоньніцкіх песьнях пераважны элемэнт лірычны і індывідуальныя перажываньні сялян—у казках часоў паншчыны мае перавагу эпічнасьць і быт. Селянін-баечнік жывымі фарбамі адмаляваў панскае жыцьцё, адносіны пана да сялян і наадварот. У большасьці гэтыя байкі апавядаліся старымі сялянамі, якія на сваіх плячох яшчэ добра адчувалі панскі бізун, якія памяталі ўсе падрабязкі прыгоньніцкага быту. Хаця ў байках месцамі чуецца шарж, аднак, яны не зьяўляюцца легэндамі-вы-

думкамі, а штрыхамі з праўдзівага жыцьця. У большасьці гэтыя казкі вызначаюцца мастацтвам малюнку, гармонічнасьцю думак і маюць нямалую літаратурную вартасьць. Да іх н'якія тлумачэньні непатрэбны, бо перад чытачом разгартаецца цэлы рад малюнкаў з ня вельмі далёкай мінуўшчыны. Бойкасьць мовы, стыльнасьць і жывасьць гэтых баек ня страцілі сваёй сьвежасьці і па сягоньнешні дзень. Гэткія літаратурныя творы няграматных казаньнікаў маглі-б друкавацца з посьпехам у любой часопісі. Яны маюць вартасьць ня толькі для гісторыка літаратуры, але й для таго, хто студ'юе сялянскі быт часоў паншчыны.

У большасьці гэтыя байкі-апавяданьні пранікнуты жывой гумарыстыкай, што яшчэ болей ярка выпукляе паасобных тыпаў: пісароў, аканомаў, лёкаяў, хітрых мужычкоў і ганаровых, ліхіх і да сьмяхоты надутых паноў. Ня гледзячы на такі гумор, з кожнага слова баечніка выступае на першы плян жудасьць і страхоцьце паншчыны. Ніякая аддалёнасьць мінулага, ніякі вясёлы настрой апавядальніка ня можа іх схаваць.

Апавяданьні-казкі аб паншчыне, ня гледзячы на жартаўлівы тон, робяць на чытача куды большае ўражаньне, чымся прыгоньніцкія мінорна-лірычныя песьні, якія застыглі ў сваёй старадаўнай традыцыйнай форме.

Аддалёчасьць мінулага і новы тон бачніка, памятаючага паншчыну, ажыўляюць малюнак і надаюць яму романтычна-драматычны характар. Вось даямо казку, у якой цэнтральнай фігурай зьяўляецца пісар, які ня страціў свайго аўторытэту сярод вясковага сялянства да апошніх дзён. Сяляне вераць у пісара, як у бога, і «грамацей» выкарыстоўвае іх цемнату на кожным кроку. На фоне гэтай казкі аб хітрасьці п'янчужкі пісара выступае і кавалак быту паншчыны.

### Пісар.

Быў адзін ліхі пан. Цяжка пад ім жылося людзям: цэлы тыдзень хадзі на паншчыну, а што зробіш у нядзельку—і тое аддай пану. То яму давай сушаных грыбоў, то назьбірай рыжыкаў, то ягад—усё яму трэба. Даўней, як дасьць бог зіму, цэлы абоз фурманак плішчыць усялякае дабро ў места, або ў другі двор.

Самога пана немаль ніколі ня бачна было, бо ён усё езьдзіў заграніцу ці ў Аршаву. Раз доўга пана ня было ў двары, і пашла чутка, што пан суздром ня вернецца, што ён прадаў маёнтак якомусь другому пану. Хто іх там ведае, мо' і праўда,—кажуць, быццам той пан за пару загранічных коней і пяток якіх сабак аддаў увесь маён-

так з людзьмі... Але ось па нямалым часе прыехаў новы пан. Сабралася грамада й давай радзіцца, як тут далей жыць. Вельмі-ж цяжка было жыць пад тым панам, ці ня можна ўпрасіць новага пана, каб ён трохі збавіў паншчыну ды падаткі.

Радзілася, радзілася грамада і прыгаварыла прасіць новага пана; а каб усё добра сказаць, — ведама, мужык цёмны, ня скажа, як трэба, — прыгаварылі напісаць пану ўсё на паперы.

Але як-жа тут напісаць, калі ніхто ня ўмее! Карбаваць яны яшчэ добра ўмеюць. Але пісаць ані ў зуб. Прачулі яны, што ў мястэчку ёсьць якісь п'янчужка пісар і што ён умее вельмі добра пісаць. Піша дробна, бы макам сыпле, а дзе трэба — кругла, бы яйкі, і так накруціць, што толькі вельмі пісьменны бачыць, што там напісана.

От прывезьлі яны таго пісара, паставілі яму кварту гарэлкі й просяць, шапкуюць, каб ён усё добра напісаў пану. Толькі пісар цэлы тыдзень п'ў ды еў яешні, а пісаць ня браўся.

— Трэба ўпярод прылады — кажа пісар.

Паперы аркуш хлопцы купілі ў мястэчку ў крамцы. Тымчасам пісар вялеў назьбіраць дубовых арэшкаў ды насушыць іх, а сам пайшоў у кузьню, набраў там з-пад тачыла вады, наліў яе ў гаршчок, насыпаў туды дубовых арэшкаў і паставіў гаршчок

на печ. Праз тры дні ўзяў ён той гаршчок, аж там атрамант, чорны, бы сажа. От нанесьлі гэта пісару з усягу сяла гусінага пер'я. Нарабіў ён сабе цэлы пук пер'яў.

— Ну,—кажа пісар,—цяпер давайце яшчэ гарэлкі, каб лягчэй рука хадзіла!

Далі яму гарэлкі. Пісар выпіў з паўкварты, агурком закусіў і давай пісаць. Сышлася грамада людзей.

— Напішы, каб пан даў на дым па пяці коп жэрдзя на плот!—кажа адзін.

— Пішы, каб пан збавіў падаткі!—кажа другі.

Многа гаварылі мужыкі пісару, каб ён пісаў. А ён пацягне з пляшкі гарэлкі, ды так піша, што пяро скрыпіць, бы нямазаныя калёсы. Піша пісар, аж пот на ілбу выступіў, нібы не пяром, а сякераю дровы пляжыць.

А лоб у яго вялізарны, а галава голая, хоць боб малаці. Напісаў пісар. Мужыкі паставілі крыжы й дзякуюць пісару. Сабралі яму з усяго сяла курэй, яек, арэхаў, мёду, сала—хто што меў.

Паехаў сабе пісар да гасподы, а мужыкі сабраліся і гуртом пайшлі к пану. Выйшаў пан на ганак і пытае, чаго яны прыйшлі. Мужыкі цалююць пану ў ногі й падаюць прашэньне. Узяў пан у рукі паперу, перачытаў і кажа:

— Дзякуй вам, хлопцы, што вы мне даеце з дыму па валу, па капе яец і па асьміне аўса.

Пераглядаюцца мужыкі, насілу расшалопалі, што гэта пан кажа. Дагадаліся яны, што пісар іх абмануў, але нічога ня зробіш—трэба аддаць пану, што напісалі. Пайшлі мужыкі да гасподы, аж кудлы дзяруць, так ім шкода дабра. Ідуць, а адзін і кажа:

— А хварэць вашай матары, падвялі й мяне. Я тады знаў, што ён піша. Бачу—піша вялікае ды й закруціць. Ну, думаю, гэта валы крутарогія. Піша круглае. От гэта вам яйкі, а дробнае—от вам авёс.

— Чаму-ж ты тады не казаў?—крычаць мужыкі й давай яго лупцаваць.

Пабіліся мужыкі, пабожкалі й пашлі зьбіраць пану авёс і яйкі.

У гэтым апавяданьні яшчэ цікава тая характэрыстыка няпісьменных сялян пры паншчыне, што яны мелі цягу да ідэографічнага (образнага) пісьма. Самі сяляне «карбавалі» і падпісваліся крыжыкамі, а просьбу, якую напісаў пісарчук, адзін з сялян тлумачыў па способу амэрыканскіх індэйцаў:

Вялікае і закручанае—валы крутарогія. Круглае—яйкі. Дробнае—авёс.

### Злосныя паны і спрытныя сяляне.

Паны ў большасьці бывалі злосныя—«do trzeciego nie mów». Сяляне ня ведалі, як прыступіцца да іх: чуць што скажа селянін непаводлуг панскага гумору,—і няшчаснага пасылаюць на стайню, дзе яго кормяць бярозавай, або сырматовай кашай—сыплюць бізуноў, колькі лезе. Такія паны наганялі страх ня толькі на сялян, але й на болей прывілегаваную службу—на войтаў, лёкаяў і г. д.

Трудна было гаварыць з панам... Трэба было ў гутарцы з ім укладываць усю здольнасьць розуму, увесь спрыт мужыцкай хітрыкі на прыемную гутарку з панам. А калі, ня дай бог, прыходзілася казаць яму, пану, што-колечы няпрыемнае, тады пішы прапала, бо будзеш закатаваным насьмерць. Затое, калі ўжо хто з падданых умеў гаварыць з „ліхім панам“, дык той чалавек лічыўся народным гэроем, аб якім народ тварыў цікавыя легэнды. Даём тут адну з такіх казак, у якой знойдзеце квінтэсэнцыю спрыту і здольнасьці кемнага гаваруна. Апавяданьне такое прыгожае і літаратурнае, што дазволю сабе зьмясьціць яго цалком.

### Мужык і пан.

Быў сабе адзін пан ды такі паганы, злосны, што проста бяда. Ніхто ня мог яму

ўгадзіць. Усе яго баяліся, бы чорта. Бывала, як прыдзе к яму хто чаго-кольвек прасіць, а ён раптоўна крыкне:

— Што скажаш?

— Усё добра, паночку!—кажа мужык і дрыжыць, як асіна.

— А па добрым цо?—закрычыць пан.— На канюшню галгана!

От так ня дасьць і слова прамовіць. Іначай ён і ня ўмеў з людзьмі гаварыць.

І баяліся людзі гаварыць таму пану што-небудзь кепскае, не пад гумор,—засячэ, ўсю скуру зьніме, калі хто не патрапіць сказаць яму так, як ён хоча, а скажа не па шэрсьці.

Толькі быў адзін нехлямяжы мужычок, дражнілі яго Стопкам. Той умеў з тым панам гаварыць. От раз той пан іграў у карты ды й выйграў вельмі харошы маёнтак. От вясною, каля Міколы, паехаў пан аглядаць той маёнтак ды й астаўся там на ўсё лета. Бачыш, яму вельмі спадабаўся той маёнтак. Праўду-ж кажуць, што новае сітка на калочку вісіць, а старое пад лаваю ляжыць.

Бачыць аканом, што доўга няма пана, а тут у двары бяда на бядзе едзе ды й бядою паганяе. От ён стаў думаць, як-бы заведаміць пана. Думаў, думаў, ды й надумаўся паслаць к пану пасланца. Толькі ня ведае, каго паслаць, каб ён добра расказаў

пану пра ўсё няшчасьце. Каго ён не пашле, усе ня слухаюць—баяцца пана, каб за праўду не засек.

Абяцаў аканом вялікі гасьцінец таму, хто пойдзе к пану. Перабраў усё сяло—няма ахвотніка. Ня знае аканом, што рабіць—сядзіць ды ломіць рукі.

Прачуў пра тое Стопак, пашоў к аканому і кажа:

— Я пайду к пану і ўсё яму раскажу; я ўмею, як з ім гаварыць.

Рад аканом, чуць не цалуе Стопку. От аканом даў Стопку цэлую жменю грошай, чобаты з сваіх ног і пасылае яго к пану ў новы маёнтак.

Ідзе Стопка і ні аднае карчмы ня мінае. Ці доўга ён ішоў, ці мала, толькі вось прышоў у новы двор. Падходзіць к пакоям, аж там сустракае яго лёкай.

— Ты чаго тут шляешся, валацуга!—крыкнуў лёкай на Стопку й давай яго цкаваць сабакамі.

Стопак дастаў з торбы кусок сала й кінуў яго сабакам. Сабакі годзе брахаць. Тымчасам Стопак узышоў на ганак.

— Што табе трэба?—пытае лёкай у другі раз.

— Мне трэба бачыцца з панам—кажа Стопак.—Прышоў я, паночку, з старога панскага двара.

— Добра,—кажа лёкай,—я скажу пану аб табе, але скажы-ж ты мне, адкуль ты знаеш, што я пан?

— Адкуль знаю—бачу. Ты пан—ня пан, а так сабе—палупанак, бо ў цябе нос нізкі, лоб сьлізкі, от і відаць, што лізаў панскія палуміскі.

Хацеў тут лёкай ухваціць Стопку за каўтуны ды, як кажуць, паслаць яго з валаснога праўленьня ды ў земскі суд. Але тут якраз лёкая пазваў к сабе пан.

— Які там хлоп?—пытае, лёкая пан.

— То пасланец ад пані з панскага маёнтку—кажа лёкай.

— А пазваць яго да крэдэнсу!

Пабег лёкай зваць Стопку к пану. А Стопак тымчасам дастаў капшук, напхаў у люльку тытуну, выняў з магалейкі губку і крамянец, узяў цыгало і давай красаць агонь. От выкрасаў ён агню й давай курыць люльку; курыць сабе ды паплёўвае на чысты памост.

— Ідзі, цябе пан заве!—кажа лёкай.

— Ня трасца трасе, няхай пачакае,—кажа Стопак, курачы люльку.

— Прандзэй ідзі!

— Зараз, зараз, толькі піпку дакуру.

Чакаў, чакаў пан Стопка—не дачакаўся. Гоніць у другі раз лёкая па Стопку. А Стопак агінаецца ды шавеліцца, бы мокрае га-

рыць. От ён дакурыў люльку, выбіў з яе попел і схаваў за пазуху, і толькі тады памаленьку пасунуўся к пану ў крэдэнс.

Лёкай, бы сабака, бяжыць наперадзе ды адчыняе дзьверы.

От улез Стопак к пану ў крэдэнс ды й закашляўся. Рыгае Стопак, а пан чакае ды толькі вусы круціць.

— Дзень добры, паночку!

— А цо повеш? — пытаецца пан.

— Усё добра, паночку.

— А па добрым цо?

— Ды от, паночку, мяне прыслаў аканом... Панскі сцызорык зламаўся.

— Які сцызорык?

— Ды гэта-ж, мабыць, той, што пану перь'я рабілі.

— Як-жа яго зламалі?

— Кажуць-жа, пане, што без начэньня і вошы не заб'еш. Але ўсялякае начэньне пры рабоце псуецца. От так і панскі сцызорык. Хацелі пану на боты злупіць з выжла скуру, узялі сцызорык.... Але на панскім выжле вельмі моцная скура.. . Сцызорык і зламаўся.

— Якего выжла? Цо ты плецеш, галган!

— Панскі выжал; той самы, можа пан памятае, ён яшчэ ўскочыў у калодзеж, а Мікіту паслалі даставаць, ды ён і ўтапіўся

там. Эгэ-ж, той самы выжал, што пан любіў яго браць на паляваньне. Эгэ-ж, дай, божа, памяць, здаецца мне, што пан аддаў за таго выжла суседняму пану трох мужыкоў.

— Цо-ж, мой выжал здэх?

— Здох, пане.

— З чэго-ж он здэх?

— Кажуць, паночку, быў здароў, але як каніны аб'еўся, дык разам і ногі выпруціў.

— Якей коніны?

— Ды мяса-ж жарабца.

— Якего жжэбца?

— Панскага-ж буланага жарабца, з лысінкаю.

— Цо-ж, і он здах?

— Здох, паночку. А шкода—добры быў жарабец.

— Я нешчэнсьлівы!

— Э, пане, чаго вельмі турбавацца? Ужо-о ведама, калі жарабятка ўродзіцца з лысінкаю, дык яно ці здохне, ці яго воўк зьесьць.

— З чэго-ж жжэбец здэх?

— Падарваўся, мабыць.

— Цо-ж на нім робілі? Прэнтко езьдзілі, чы цо?

— Не, пане, на ім ня езьдзілі: заўжды ён стаяў на стайні.

— А цо-ж?

— Ваду, пане, вазілі.

— Але-ж нацо была та вода?

— Людзі-ж кажуць, паночку, што як топішся, то й за брытву хопішся. От як загарэўся ў двары сьвінух, дык аканом вялеў і на жарабцу ваду вазіць.

— Цо-ж, і сьвінух спаліўся?

— Згарэў, паночку.

— Як-жэ он спалілся?

— Бачыш, пане, ён быў блізка каля аборы, вось ад яе й загарэўся.

— То і абора паліла сен?

— Гарэла, пане, як сьвечка.

— З чэго-ж она запалілася?

— От гэтага, паночку, добра ня ведаю, ці ад абозьні, ці мо' ад пакояў.

— Езус Мар'я! То й пакоі спаліли сен?

— Згарэлі, пане, суздром усё змокла, от як-бы хто языком зьлізаў.

— І вшыстэк двор спаліл сен?

— Увесь, пане: чыста, гладка, хоць рэпу сей...

Ухваціўся тут пан за галаў і давай божкаць.

— З чэго-ж двор запалілся?

— Ад сьвечак, пане,—кажа Стопак.

— Для чэго-ж палілысен свецы?

— Ну, як-жа, пане? Ведама, заўсёды сьвечкі паляць, як хто памрэ.

— Кто-ж там змарл?

— Вечны пакой, каб ёй на тым сьвеце лёгка ікнулася,—пані памёрла.

— Цо, цо? Цо ты гадаш? Пані змарла? О, я нешчэнсьлівы!..

Давай тут пан плакаць, убівацца.

— Чаго-ж пан плача? Пану бог даў і прыбытак.

— Які, гадай прэндзэй!

— Пану бог даў унука. Большая панская паненка сына мела. Гожы, кажуць, хлапчук, ці бо паніч, от рыхтык як выліты панскі хурман Мікіта.

Пачуўшы тое, пан зваліўся з крэсла, а Стопак пашоў сабе ў пякарню падвячоркаваць.

Дык от які быў Стопак і як ён умеў з панам гаварыць.

Трэба сказаць, што гэтая казка мае ў сабе шмат сцэнічнасьці, якая з маленькай крупінкі вырастае падканец у цэлую гару. Каб такія гутаркі сыпаліся з нашай сцэны, дык ніколі-б публіцы не надаелі. Магчыма, што ў аснове сюжэту паслужыла маленькае здарэньне, толькі трохі падобнае да вышэйшай казкі, але тут трэба дзівіцца кемнасьці й мастацтву народнага пісьменнага новэліста. Такое разгортваньне фабулы можна лічыць клясычным. Спачатку слабенька, памалу, а потым усё мацней Стопак торгае панскія нэрвы, мсьціць яму кожным рухам, кожным

словам, гіпнотызуе яго, заварожвае і даводзіць яго ў канцы да апошняй ступені роспачы і гора. Што называецца, рэжа пана да крыві, а нажа ня відаць. Рэжа і радуецца бязьмерна кожнай каплі крыві, здабытай у пана нявідочным нажом. Тут адразу відаць, што шмат гневу і ненавісьці накапілася ў сэрцы селяніна, пакаленьне за пакаленьнем. Злосьць брызгае з кожнага жартаўлівага слова, з кожнай затаёнай мужыцкай усьмешкі, з кожнага цмоканьня мужыком панскай рукі.

Шчыра пан зарабіў гэту ненавісьць, калі дзеля аднаго панскага выжла ўтапіўся прыгоньнік Мікіта і былі разбураны тры сялянскіх сям'і, бо пан аддаў за выжла суседняму пану трох мужыкоў, аб чым Стопка далікатна напамінае пану.

Ня будзем даваць тут поўнага агляду панскага быту часоў паншчыны, бо частку гэтага матар'ялу мы ўжо далі ў вышэйшых разьдзелах.

XIII.

## Эвангэльле навыварат.

Рознымі спосабамі сяляне рэагавалі на паноў і на іхнія жудасныя ўчынкі: 1) упадалі ў вялікую роспач, пры чым не чакалі сабе вызваленьня, а жадалі магілы, але гэта было толькі хвілёва, 2) яны бачылі ўсю гніль панскага распуснага жыцьця і малявалі паноў і панскія зьдзекі над сабою ў гумарыстычных фарбах, дзе ненавісьць да паноў вызначалася вельмі ярка, 3) ад ненавісьці яны пераходзілі да страшнай помсты над самымі ліхімі панамі—на страх іншым паном, і ў канцы 4) сялян ніколі не пакідала надзея аб тым, што прыдзе вызваленьне, што калі не яны, дык унукі ці праўнукі будуць вольнымі людзьмі.

Розна сяляне гаварылі аб сваёй сьветлай будучыне. То яны выяўлялі прычыну нядолі ўласнай цемнатой і надзеяліся, што зьявіцца на сьвет сьветлы Розум, які ў выглядзе асілка выратуе іх і дасьць ім новае шчасьлівае жыцьцё. То яны спадзяваліся на сілу мускулаў сваіх, якая зьнішчыць да-

шчэнту панскую гніль. То яны спадзяваліся на дудара, які песьнямі сваімі аб волі праясьніць розум народны і надасьць людзям адвагу.

Казачны Асілак не пакідаў іхнія думкі. У розных выглядах і постацях красаваўся Ён у фантазіі бедака аратая. Зоркай з неба каціўся Ён на зямлю. На галаве ў яго было яснае сонейка, а сьветлы месячык—на грудзёх. Сіднем сядзеў Ён трыццаць гадоў на адным месцы. Потым хадзіў у сьвет з жалезнай булавой паказваць усім сваю сілачку. Ваяваў з шматгаловымі зьмеямі, з ліхімі разбойнікамі. Народ яго вельмі любіў, а паны стараліся Яго зьвесьці са сьвету.

Як-бы Промэтэй старажытнай Грэцыі, ці Хрыстос з Бэтлеему, перавандраваў на нашыя абшары і ў розных мэтаморфозах чарадзейніка аздабляў асабістай музыкальнасьцю людзкое выабражэньне.

Возьмем новы вар‘янт вечнага Асілка (Зборнік Сержпутоўскага, стр. 87).

Тут мы бачым эвангэльле навыварат:

> Жылі сабе дзед ды баба (Ёсіф і Марыя. З. Б.). Жылі сабе ў згодзе: любіліся-кахаліся ўсё жыцьцё. Толькі ня было ў іх дзяцей.

Вось пачынаецца гісторыя з запладненьнем кабеты праз «сьвяты дух». Толькі беларускі баечнік малюе гэты акт болей рэ-

альна і ў гумарыстычнай афарбоўцы. Селянін ня верыць у сваю байку—яна яму толькі патрэбна як фон для маляваньня рэволюцыйных думак:

> От раз дзед быў на гумне, а баба ўхаджалася каля печы, пякла аладкі. Толькі вось клубок агню («сьвяты дух». З. Б.) ускочыў праз вакно ды й качаецца па хаце.
>
> Спалохалася баба, ня ведае, што рабіць. Качаўся-качаўся клубок агню ды й падкаціўся бабе пад ногі. Баба ўхвацілася за падол, але чуе—штось у яе паміж ног шалпоча. Не пасьпела баба ачухацца, як чуе, што ў яе штось залезла ды й варушыцца ў лане. І стала бабе так добра... што яна аж прысела. Млосьць узяла бабу. Дацяглася яна да полу і прылягла.

Словам, Пушкінская «Гаврыліяда»

Ад гэтага клубка агню баба забярэменела, і ў яе нарадзіўся Асілак.

Прапускаем тут аб яго традыцыйным росьце «не па днёх—а па часох», як ён біўся са зьмеямі і разбойнікамі. Разбойнікі просяць Асілка, каб ён зрабіўся іх атаманам.

> — Не,—кажа Асілак,—не затым я прышоў, каб сьветам панаваць, а затым, каб аслабаніць сьвет ад паноў, бо ўся-

ляк і чалавек сам сабе пан. А хто хоча быць панам над другімі людзьмі, той — мой вораг.

Адразу відаць, што баечнік—соцыялісты падпускае тут сваю клясавую ідэолёгію. На лад казачных апосталаў баечнік беларускі выпраўляе Асілка ў вандроўку:

Ідзець сабе Асілак ад аднаго сяла да другога. І ўсюды Асілак усё адно кажа, што ўсе людзі самі сабе паны, што ўсё дадзена на патрэбу ўсім людзям. І пачаў асілак навучаць, каб людзі жылі ў згодзе ды ў ласцы, тагды ніякае ліха з імі ня справіцца, бо згодная грамада, бы адзін вялікі чалавек, вялікі багатыр, дужэйшы ўсіх багатыроў. Пашла тая прачутка па ўсяму сьвету. Спужаліся паны і давай лавіць Асілка ..

Усё гэта апавядаецца ў лагодным апокрыфічным стылю. Тут або ёсьць маленькі ўплыў эвангэльскіх легэнд, пераніцаваных селянінам на свой капыл, або такі ўжо адвечны склад народнай фантазіі, якая даўней злажыла «сьвятое пісьмо», а цяпер аналёгічна прадаўжае ў такім духу далей тварыць-выказваць у вобразах сваё імкненьне да лепшага жыцьця.

Доўга паны шукалі Асілка, ды ўсё не маглі знайсьці. Але вось сем братоў, сем разбойнікаў захацелі самі быць па-

намі, от яны згаварыліся і выдалі Асілка. Паны рады, называюць разбойнікаў сваімі братамі, шапкуюць перад імі і даюць ім маёнткі, многа грошай і ўсялякага дабра.

Давай гэта разбойнікі падмаўляць людзей, каб яны выдалі мяцэжніка— Асілка. Адных падмовілі, другіх застрашылі, а трэціх падпалілі. Ведама, заўжды многа знойдзецца дурных людзей, што яны гатовы самі ў вяроўку лезьці. Яны і сказалі паном, дзе жыве Асілак.

З кожным словам усё ўзмацоўваецца ўражаньне паралельнасьці з эвангэлічным міфам:

Набралі гэта паны маскалёў і напалі на Асілка (ролю рымлянаў выпаўняюць тут «маскалі». З. Б.). А ведама, маскаль! Яму як прыкажуць, дык роднага бацьку зарэжа. Асілак тымчасам нічога ня ведаў і лёг на супачынак. Тут маскалі напалі на яго, скрампавалі вяроўкамі й вядуць к паном. Сабралося многа людзей. Шкода ім Асілка, ды няма чаго рабіць. Ня могуць адабраць у маскалёў добрага чалавека. Вядуць маскалі Асілка ў двор, а людзі цягнуцца ззаду. Мужыкі маўчаць, апусьціўшы голавы, а бабы плачуць ды божкаюць: «На каго-ж ты нас пакідаеш? Хто-ж нам скажа добрае славечка?»

І даўнейшая Гальгофа малюецца з усімі дэталямі. Пачынаецца драматычнасьць: паны думаюць зьдзекавацца над Асілкам. Тут ужо апостал-баечнік ня можа гаварыць простымі словамі—гутарка робіцца рытмічнай, блыскае час-ад-часу рыфмамі, настрой падняты:

Тымчасам сабралося паноў,
Хоць гаць з іх гаці,
Ды па галовах хадзі.
Бы ваўкі завылі,
Што Асілка злавілі.
Сьмяюцца, жупяць, рукі пацірають
Ды якую прыдумаць кару выбіраюць.
Адзін кажа —
Скуру з жывога садраць;
Другі кажа —
Ганталёў у цела назаганяць;
Трэці кажа —
Павесіць за язык,
Каб увесь сьвет знаў,
Што пан, то ня мужык;
Чацьверты кажа—
Язык адрэзаць ды ногі перабіць,
Каб ня мог па сьвету хадзіць,
Ня мог гаварыць
Ды людзей вучыць.

Такім чынам паны прыдумвалі страшныя мучэньні над народным вястуном-прарокам—над Асілкам. Але ў той час, калі

народная фантазія ў эвангэльскіх байках давяла да канца зьдзекі над Хрыстом, і ён пры вялікіх мучэньнях памёр, калі фантазія старасьвецкага грэка прыкавала Промэтэя да скалы і арол кляваў яму грудзі—беларускі міфатворца адкінуў лішнія мучэньні:

Пакуль яны крычалі
Ды кару прыдумлялі,
Асілак страпянуўся,
Вяроўкі парваў
І да людзей сказаў:
«Браткі, калі-б паноў чорт узяў,
То-б сьвет бяды ня маў.
А без гарапашнікаў мужыкоў
Ня было-б ні хлеба, ні асмакоў.
А каб гэтае ліха зламаць,
Трэба ўсім, як адзін чалавек, стаць,
Ня грызьціся паміж сабою,
Ды ад варагоў бараніцца гурбою,»
Так сказаў Асілак і зьнік;
Толькі клубок агню
З таго месца пакаціўся на зямлю.

А Асілак, кажуць, і да тых час па сьвету гуляе ды людзей навучае. Але ведама, мужыкі дурныя праміж сабой грызуцца, перад панамі-ворагамі гнуцца, самі сябе за губы трымаюць і дабра ня маюць. Але пэўна хутка тое будзе, што кожны сам сабе панам будзе. Усе людзі

будуць роўна працаваць, будуць роўна панаваць.

Так у эвангэльлі навыварат наш апостал баечнік канчае свой апокрыф. Не аб нябеснай асалодзе, а аб панстве працоўных людзей на зямлі кажа ён.

Яго прароцтва пачынае пераходзіць у праўдзівасьць. У жудасныя часы паншчыны і царызму тварыў селянін свае легэнды аб Асілках. Гэтыя Асілкі цяпер паміж намі— рабочыя і сяляне.

# Зьмест.